ISSN 0320-7579

№ 1/2016(1052)

# Бярозка

№ 1

рухацца наперад

НОВЫ ПРАЕКТ
**Я — МАСТАК**

**ФАЕРШЧЫК,**
чалавек, які адхінаецца ад агню і ўразаецца ў слуп

# СТЭРЭАТЫПЫ
## і як з імі быць

Малюнак Алесі Галоты

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Горкага перцу — 30 гарошын, духмянага перцу — 15 гарошын, гваздзікі — 12 штук, лаўровага ліста — 7 ліосткоў. У чым?

**2.** Калі курыца стаіць на адной назе, яна важыць 2 кг. Колькі яна будзе важыць, калі стане на дзве нагі?

**3.** Што трэба рабіць, калі ў сне сустрэнецца тыгр?

**4.** Назаві самага знакамітага ветэрынара.

**5.** У якім парадку стаіць гэты рад лічбаў: 1; 8; 2; 0; 5; 7; 3; 4; 6?

**6.** Што вышэй без галавы, чым з галавой?

**7.** Што заўсёды павялічваецца і ніколі не змяншаецца?




Доктар сказаў пацыенту, які пакутаваў ад залішняй вагі: «Калі ты кожны дзень будзеш праходзіць 10 км, то праз год твая фігура прыйдзе ў норму».

Роўна праз год пацыент тэлефануе доктару:

— Доктар, я скінуў лішнюю вагу, але цяпер у мяне ўзнікла іншая праблема.

— Якая праблема?

— Я за 3650 км ад свайго дому! Як мне назад вярнуцца?

***Маці, укладваючы дзяцей спаць, так павысіла на іх голас, што суседзі за сценкай таксама хуценька разаслалі ложкі і ціхенька леглі.***

Адказы на пытанні для знаходлівых:
1. У 1 граме.
2. 2 кг.
3. Прачнуцца.
4. Айбаліт.
5. У алфавітным: адзін (А); восем (В); два (Д); нуль (Н) і гэтак далей…
6. Падушка.
7. Узрост.

Падарунак ад Вожыка

Часопіс сатыры і гумару




Малюнак Аляксандра Каршакевіча

# Стэрэатыпы


Дар'я Чарняўская

***Школа — крыніца многіх стэрэатыпаў, якія застаюцца з пасталеўшым дзіцёнкам амаль на ўсё жыццё. Нешта не спадабалася ў пачатковых класах — лічы, што вымавіў «Liberum veto» на сейме Рэчы Паспалітай. Цяпер меркаванне не змяніць да паўналецця. Прыйшла мясцовая прыгажуня ў новай сукенцы — і сукенка таксама пачынае здавацца вяршыняй прыгажосці. А шэрая мышка з апошняй парты можа быць апранутая ў разы лепш. Хто зверне ўвагу на яе густ? Усё вырашае папулярнасць. Адчуваеш, які моцны ўплыў маюць сябры ды аднакласнікі? Часам такія прадузятыя адносіны перашкаджаюць усталяванню карысных звычак.***

Возьмем здаровы лад жыцця. Займацца спортам прэстыжна. Напрыклад, хадзіць у секцыю каратэ. Аднакласнікі глядзяць з павагай ды часам просяць паказаць некалькі прыёмаў на перапынку. Футбол, баскетбол, плаванне — усё цікава і зразумела. Вось ён, здаровы лад жыцця. Але ж складаецца ён не толькі са спорту. Шлях да сапраўднага здароўя ляжыць праз школьную сталоўку. Своечасовы гарачы сняданак, кашы, супы і катлеты падабаюцца страўніку больш за салодкае, укінутае ў рот перад урокам. Міжволі з'яўляецца стэрэатып: здаровае харчаванне не бывае смачным. Да супу з кашай вяртаюцца толькі тады, калі забаліць жывот.

А вось яшчэ стэрэатып. «Калі я пайду працаваць, фізіка\хімія\матэматыка\літаратура не спатрэбяцца», — так, напэўна, хоць раз у жыцці казалі ўсе мы. І памыляліся. Чым далей прадмет ад будучай спецыяльнасці, тым больш ён неабходны. Для прафесійных ведаў будзе шмат часу і ва ўніверсітэце, і на працы. А вось асновы, патрэбныя кожнаму культурнаму чалавеку, дае менавіта школа. Малярная маса, закон Ома, квадратныя ўраўненні, будова клеткі, тропы могуць аднойчы з'явіцца падчас гутаркі, і ў вачах суразмоўцы ты будзеш выглядаць неадукаваным, бо не здолееш падтрымаць тэму. Параграфы ў падручніку чытаюць не толькі для добрай адзнакі. Хочаш аднойчы адпачыць на знакамітых Мальдыўскіх астравах? А ведаеш, дзе яны знаходзяцца, ці, увогуле, колькі тых астравоў? Вучы геаграфію. Добра, геаграфіяй авалодаў, знайшоў Мальдывы. Ляціш да іх на самалёце, раптам патрапіў у турбулентнасць — здаецца, ледзьве ліпіць той самалёт, са страху ў пяты коле. Памятаў бы са школы, якім чынам людзі ў небе лятаюць, дык не спужаўся б.

Чаго толькі не апраналі я і мае аднакласнікі падчас пошукаў ідэальнага адзення! Часам сорамна глядзець на фота, не тое што зноў з'явіцца ў гэтым на вуліцы. Між іншым, акуратныя кашулі пасуюць усім: разам з гальштукам ператвараюць хлопца ў маладога мужчыну, а ў спалучэнні з класічнай спадніцай робяць дзявочы стан тонкім і зграбным. Памятаеш сваё першае каханне, якое сустрэлася ў школьным калідоры? Аніякая форма не сапсавала ўлюбёнае аблічча. Бачыш, дружа? Чорна-белая сукенка ды класічны касцюм яшчэ нікому не нашкодзілі.



Марына Шантыр

# Не магу пра гэта маўчаць!

*Калі б у мяне спыталі: «Пра што ты не можаш маўчаць?», вядома, я б распавяла пра сваю вялікую любоў да чаго-небудзь. Я люблю бульбяныя чыпсы. Я думаю пра чыпсы. Мне сняцца чыпсы. Яны для мяне недасягальныя з-за забаронаў мамы. Таму ўсё, што я магу з імі рабіць, — хваліць іх. А пра свой любімы фільм «Гары Потэр» я хачу гаварыць і спрачацца гадзінамі. Але ведаеце, тое, пра што я не магу маўчаць (хоць даводзіцца), — гэта больш сур'ёзныя і нейкія дрэнныя рэчы. Усё сур'ёзнае — заўсёды дрэнна. Асабліва ў шаснаццаць.*

У мяне дзве лепшыя сяброўкі, з якімі не бывае сварак; выдатныя адносіны з бацькамі і паразуменне з сястрой. Гэта ўсё, што я нажыла. Дакладней, бацькі «нажылі» мяне. А я «набыла» толькі сяброўак. Але ж быў хтосьці да іх? Сябры майго ранняга дзяцінства, былыя аднакласнікі, знаёмыя з лагера... Чаму я не маю стасункаў з імі цяпер? Я ж памятаю, як весела мы праводзілі час разам!

Чаму людзі сыходзяць?!

Я разумею, калі вы доўга прыглядаліся адзін да аднаго, а потым скончылі «прыглядванні» і разышліся па сваіх дарогах, — значыць, вы папросту не спадабаліся адзін аднаму, не свае людзі. Ці калі расстаюцца, пасварыўшыся, са скандалам — мой любімы варыянт, таму што вельмі просты. У вас няма ніякіх пачуццяў, ніякіх эмоцый — час сыходзіць. Маё неразуменне выклікае сітуацыя, калі людзі дамаўляюцца аб спыненні адносін. Што гэта значыць? «Нашым адносінам патрэбны чатырохбаковыя перамовы ў Мінску»? Больш бязглуздыя толькі ўгаворы маёй бабулі паесці.

Чацвёрты шлях страты сяброўства — час. Ён выносіць усё і ўсіх. Такі злавесны персанаж ва ўсёй гэтай гісторыі. Спачатку сустрэчы робяцца радзейшымі, тэлефанаванні часцейшымі, з'яўляюцца перапіскі — ілюзія падтрымлівання стасункаў, а потым і зусім іншыя людзі — замена.

Па-мойму, спісваць усё толькі на час — несумленна. Мы прывыклі шукаць вінаватых і зараз іх знойдзем. Калі і выбіраць самага злоснага ў гэтай гісторыі, то ім будзе чалавек. І вы, і я кагосьці пакідалі. Спытаеце: «Чаму?» Я знайду прычыны для асобна пакінутых мною людзей: «Той быў двудушны, тая схлусіла, з гэтым не сышліся характарамі». Але ў маіх словах не будзе праўды. Я шчыра не разумею, чаму вы ідзяце поплеч, нага ў нагу, а потым разыходзіцеся. Магчыма, гэтыя людзі былі не для вас? Або вы не для іх.

Складаней толькі тое, што я не ведаю, з якім смакам выбраць чыпсы заўтра ўвечары.

# Фаершчык,
## чалавек, які адхінаецца ад двух вогненных шароў і ўразаецца ў слуп



***Што такое на самай справе фаер-шоу, чытачам «Бярозкі» расказала Кацярына Шанько, «уладарка агню» з трохгадовым стажам.***

— Упершыню я ўбачыла фаер выпадкова. Мне спадабалася. Потым шукала выступленне спецыяльна. Каля мяне спыніўся прыгожы хлопец-фаершчык, трэба было неяк завесці размову, таму запыталася, дзе можна займацца фаерам. Шчыра сказаўшы, займацца мне не вельмі і хацелася, проста малады чалавек быў вельмі прывабны. У суполках «Вконтакте», куды я даслала заяўкі, мне не адказалі. Я вырашыла, што так і трэба. А дзесьці праз месяц мы з сяброўкай гулялі каля Тэатра оперы і балета і выпадкова ўбачылі, як у паветры нешта лётала. Падышлі бліжэй — а гэта займаюцца фаершчыкі. Не ведаю, чаму мне зноў прыйшла ў галаву думка папытацца, дзе і калі гэтаму можна навучыцца. Мне адказалі: «Тут і зараз», далі ў рукі рэквізіт і пакуль не навучылася рабіць тры элементы, не адпусцілі. Сказалі яшчэ: зробіш, маўляў, рэквізіт (шкарпэткі, у якія насыпаны гарох) — прыходзь. Праз тыдзень я зноў з'явілася. І ўжо трэці год мяне не адпускае.

**— Няўжо не было расчараванняў?**

— Спачатку я думала, што буду гэткай уладаркай агню, буду ім захапляцца. Але цяпер агонь — не тое, дзеля чаго я займаюся фаерам. Мне цікава прыдумляць і развучваць новыя элементы, ставіць нумары, якія перадаюць настрой імгнення. Мы стварылі тэатр. Мне падабаецца здымаць тэхблог — відэанавучанне з аўтарскімі элементамі, ездзіць на фестывалі, у тым ліку і за мяжу, удзельнічаць у спаборніцтвах, знаходзіцца ў фаерскай «тусе». Мне пашанцавала, што я адразу ўлілася ў файную кампанію. Яны, канешне, дзіўныя на ўсю галаву, але класныя.

**— А як на твой занятак адрэагавалі бацькі?**

— Ім гэта ідэя адразу не спадабалася, так і сказалі: грошай на трэніровачныя шкарпэткі не дамо. Таму спачатку я збірала грошы на самы просты рэквізіт з самых танных матэрыялаў. Бацькі хваляваліся, што гэта будзе дрэнна ўздзейнічаць на здароў'е, што я падпалю сябе… Яны да гэтага часу супраць. Маме не падабаюцца мае штодзённыя шматгадзінныя трэніроўкі, апёкі — не лепшае ўпрыгожванне на целе, цяжкі рэквізіт, які трэба трымаць адной рукой, другой чапляючыся за партнёра, і пры гэтым рухі павінны быць прыгожымі і лёгкімі.



**— Напэўна, цікава цяпер назіраць за новенькімі?**

— Прызнаюся, мае першыя думкі як гледача цалкам супадалі з тым, што я чую ад пачынашак: «А вы падпальваеце гэтыя мячыкі? А іх трэба круціць у адваротны бок, каб не заблытваліся? А чым у вас адзенне прапітана? А гэта ўсё само гарыць ці нечым трэба змочваць?» Раздражняе, калі новенькія, якія займаюцца адзін-два месяцы, ствараюць свой тэатр. Такіх мы называем трохбітачнікі (трохбітка — гэта назва базавага элемента, без ведання якога не атрымаецца круціць). Я не супраць таго, каб яны развіваліся, выступалі на «пакрутонах». Калі яны ходзяць за табой, штурхаюць за крысо, кажуць «пакажы» — гэта добра. Але калі прыходзяць з пасылам: «Вы старыя, а мы новае пакаленне і зараз усім пакажам», гэта мне не падабаецца. Асабліва калі гэта камерцыйныя тэатры. Тады паўстае пытанне бяспекі для гледача і замоўцы.

**— Раскажы крыху пра правілы бяспекі.**

— Усе рухі павінны быць адпрацаваны да аўтаматызму на трэніровачным рэквізіце, і толькі потым можна брацца за агонь. Нягледзячы на тое, што я займаюся ўжо тры гады, перад кожным выступленнем я раблю мінімум 4—5 «прапалаў» — рэпетыцый з агнём. Калі рабілі нумар з акрабатыкай і агнём, трэніраваліся па шэсць разоў штодзённа на працягу пяці дзён. Трэба выбіраць максімальна закрыты касцюм з натуральных матэрыялаў. Доўгія валасы лепей або збіраць, або змочваць. Калі працуеш з піратэхнікай, не трэба круціць яе голымі рукамі, не глядзець, як яе падпальваюць. Таксама яе нельга намочваць, а калі гэта здарылася, варта выкінуць, а не высушваць. Ёсць пэўны клас небяспекі для піратэхнікі, якую трымаеш у руках. Нельга брацца за гэта людзям з парушэннямі маторыкі, каардынацыі, дзейнасці вестыбулярнага апарата. Што датычыцца месца, то нельга працаваць з агнём у памяшканні, на вуліцы бліз дрэваў. Рэквізіт нельга класці на асфальт і ў траву: усё, што можа гарэць, павінна ляжаць на металічных лістах. Калі атрымаецца нейкая памылка з серыі «крыва зрабіў» ці «недзе замарудзіўся», пляцоўка не павінна папсавацца.

**— Раскажы пра свае праблемы падчас выступленняў.**

— Самае крыўднае — загарэлася на выступленні. Я працавала з масіўнымі веерамі, падняўся вецер і ў мяне загарэлася спіна. Але ўсё скончылася добра, я пераклала веера ў адну руку, элегантна пахлопала па спіне другой рукой, працягнула круціць, і толькі праз некаторы час да мяне дайшло: «Я ж гарэла!» Яшчэ даволі крыўдна, калі падчас выступлення тухне рэквізіт. Напрыклад, прыпыняешся і поі (вогненныя шары) затухаюць. Гэта самае непрыемнае, бо сінхронна працуюць яшчэ два чалавекі. Поі трэба зноў падпаліць і падладзіцца пад калег, гэта не складана, але ўражанне ў гледачоў ужо не тое. Ёсць моманты, якія ад нас не залежаць. Напрыклад, калі пачынаецца дождж. Агонь з ліўнем — гэта

вельмі прыгожа для гледача, але вельмі нязручна для артыста. Большая частка кур'ёзаў адбываецца на трэніроўках — калі атрымліваеш, напрыклад, па галаве. Часам здараецца, што недзе ў сярэдзіне нумара я разумею, што мне не цікава круціць гэту праграму, і тады я пачынаю імправізаваць у сольнай частцы.



**— А якую музыку ты выбіраеш для выступленняў?**

— Часцей за ўсё гэта нешта лірычнае. Такую музыку я лепей адчуваю. Нумары ствараюцца ў пэўным настроі, часцей за ўсё ў мяне гэта адбываецца ў кастрычніку або лютым, таму музыка і нумар меланхалічныя. Навічкі бяруць музыку больш эпічную, тыпу Nightwish, а людзі з досведам — рытмічную, разнастайную. Напрыклад, калі ў адной кампазіцыі спалучаецца некалькі настрояў, пераходаў, якія можна прыгожа выкарыстаць у нумары. Карацей, музыка ў мяне альбо дзіўная, альбо пяшчотная.

**— А адкуль з'яўляюцца касцюмы?**

— Яны ўзнікаюць так: «А-а-а! У мяне праз тыдзень выступленне! Швейная машынка, тканіна, хутка сшыць!» На сольныя выступленні касцюмы шыю сама. Часам перашываю старое адзенне, дадаю ці прыбіраю дэталі. Штосьці набываю ў сэканд-хэндзе і перашываю. Калі выступленне агульнатэатральнае і тры чалавекі павінны выглядаць у адным стылі, то пашыў замаўляем, але потым усё роўна нешта перапрацоўваем. Напрыклад, калі гарнітур павінен быць неонавы, трэба прышыць дыёды, правесці праводку (першае раблю я, другое — хлопцы). Часам нешта не падабаецца, адчуваеш, што патрэбны капялюшык ці пальчаткі. Гэта, зразумела, даводзіцца шыць самой. Калі сур'ёзна, усё дапрацоўваецца ў апошні момант.

**— Як ты сама ацэньваеш свой узровень?**

— Кажуць, сам сябе не пахваліш — ніхто не пахваліць, але я спадзяюся, што ў тройку лідараў сярод дзяўчат я ўваходжу. Адмысловых рэйтынгаў няма, але ў ліку лепшых — тыя, хто здымае больш відэа, дае больш майстар-класаў, ведае больш тэхнік, перамагае ў «двубоях». Я здымаю блог і мая знаёмая распаўсюджвае відэа і ў замежных групах фаер-шоў. Было вельмі прыемна, калі я ўпершыню прыехала ў Растоў і мяне пазнавалі па маіх відэа, фатаграфаваліся са мной. Калі я толькі пачынала займацца, ад майго добрага сябра ішла канструктыўная крытыка. Ён таксама фаершчык, прычым сапраўды самы вядомы ў Беларусі. Ён крытыкаваў маю тэхніку, музыку, якую я выбірала, нумар, які я ставіла, і быў чалавекам, на якога я раўнялася яшчэ з моманту нашага знаёмства. У мяне была мэта: заткнуць за пояс таго нахабнага выскачку.

***Кацярына Захарэвіч***



# Сірэны

Неяк раз на занятках клуба навучэнцы падвялі мяне да агляду вельмі цікавай навуковай біялагічнай праблемы. Натураліст-школьнік у дыскусіі са сваім юным калегам з гімназіі заўважыў:

— На сушы жывыя істоты больш складаныя ў сваёй арганізацыі, чым насельнікі мораў, — і прывёў некаторыя прыклады: — воўк, дзік, слон, малпа, ды і чалавек, у рэшце рэшт.

Юннат-гімназіст адзначыў:

— А як жа кіты, дэльфіны, цюлені? Яны вельмі разумныя, магчыма гэта нашы браты па розуме!

Дыскусію я вырашыў падтрымаць, бо сам актыўна займаюся вывучэннем марскіх млекакормячых:

— Кожны прадстаўнік класа млекакормячых, як і іншыя прадстаўнікі царства жывёл, складаюцца з клетак, якія нясуць у сабе часцінку акіяна. Гэта цытаплазма — вадкі складнік клеткі. Яе хімічны састаў вельмі падобны на акіянічную ваду.

— Таму ўсе млекакормячыя выйшлі з акіяна і пайшлі ад дэльфінаў і цюленяў, — паспяшаўся з высновай юннат-гімназіст.

— Не зусім так, — паправіў яго я. — Нават наадварот, некаторыя з марскіх звяроў, такія як дэльфіны і сірэны, вярнуліся ў акіян з сушы.

— А хто такія сірэны? — зацікавіўся юннат-гімназіст. — Наколькі я ведаю, гэта міфічныя істоты.

— У Сярэднявеччы жывых істот з вадаёмаў людзі надзялялі звышнатуральнымі здольнасцямі і складалі пра іх казкі і міфы. І гэта зразумела, бо акіян на той час быў вельмі слаба даследаваны. У розных краінах марскія невядомыя істоты мелі розныя назвы. Усім вядомая дацкая Русалачка. А вось у Расіі такіх міфічных істот называлі Берагіні, у Сербіі — Вілы, у Беларусі — Ласкатухі, у Германіі — Ундзіны, у Славеніі — Маўкі. Адно з нашых народных паданняў кажа: «Раз на Нёмане лавілі невадам рыбу. Закінулі рыбакі невад у затоку ля самага берага, а затока гэтая глеістая аказалася, бы балота. Закінулі невад, выцягнулі, а там невядома што — ці то рыбіна, ці то чалавек: прыгажуня — валасы ў яе залацістыя, ручкі маленькія ды кароценькія. Замест ног — хвост рыбін. Прывезлі яе рыбакі дадому, зрабілі балею паболей і пусцілі яе ў ваду. За дзесяць кіламетраў даводзілася па

ваду ездзіць, да Нёмана, а мянялі яе праз дзень. З усёй акругі сцякаліся ў тую вёску на русалку глядзець. А яна, як набярэцца шмат народу, зажурыцца, прыкрые хвалістымі сваімі валасамі тварык і рыдае.

А калі надвор'е было, спявала Ласкатуха — ды так гожа! Голас у яе быў дзівосны, у людзей такога не бывае. Шкада толькі — у песнях яе ніхто ні слоўца разабраць не мог. З усіх навакольных вёсак ішлі на яе падзівіцца. А як не сталі хадзіць — павезлі яе на паказ па гарадах. А потым ўсім надакучыла. Тады адвезлі русалку зноў да Нёмана ды выпусцілі на волю. Тройчы яна нырнула, тройчы галаву нахіліла — дзякавала, відаць, што выпусцілі яе. А трэці раз пагрузілася — і ўжо больш не паказвалася.

*Белага мядзведзя называюць «белым» з-за колеру. Але скура ў белага мядзведзя чорная, а кожны асобны валасок поўсці — бясколерны.*

— Хм, — задуменна сказаў юннатаў-гімназіст, — так, дзе мора, а дзе Беларусь. Адкуль у нас на Нёмане Русалачкі?

— Чаму б нам не выказаць здагадку, што ў Сярэдні вякі па Нёмане з Балтыйскага мора да нас заплывалі не толькі ласось, сёмга і сяўруга, а нават балтыйскі цюлень?

— Зразумела, — у адзін голас заявілі юннаты, і я працягнуў.

— З глыбіні стагоддзяў дайшлі да нас легенды і міфы аб каварных сірэнах — пагрозе для стомленых маракоў. Але аказалася, што гэтыя марскія прыгажуні ніякія не панны, а траваедныя марскія млекакормячыя, істоты лагодныя, абсалютна бяспечныя і да таго ж даволі маўклівыя. Гэты факт падчас аднаго са сваіх падарожжаў пацвердзіў Калумб, які лічыў Ламанцінаў русалкамі. Яму ўдалося злавіць адну з істот і змясціць у возера. Жывёла хутка стала ручной, падплывала на кліч чалавека і пражыла дваццаць шэсць гадоў. Адзінае, што аб'ядноўвае легендарных істот і марскіх звяроў, гэта спосаб засялення воднай стыхіі. Па легендах ўсе русалкі калісьці былі людзьмі, г. зн. жылі на зямлі. Так і марскія жывёлы, да якіх адносяцца дзюгоні, ламанціны, марскія каровы, прыйшлі ў акіян з сушы. Таму навукоўцы называюць іх другаснаводнымі жывёламі, а дзякуючы падабенству з легендарнымі сірэнамі іх аб'ядналі ў цэлы атрад буйных марскіх млекакормячых — сірэны.

Іх продкі спакойна жылі на сушы, бегалі па ёй, сілкаваліся наземнымі раслінамі і жывёламі. Але вось змяніліся ўмовы жыцця, і яны сталі перад выбарам: навучыцца жыць у іншым асяроддзі або загінуць. Яны вырашылі вярнуцца ў акіян.

Некаторыя з іх змяніліся да непазнавальнасці, іншыя пакінулі для нашчадкаў памяць продкаў — рудыменты і атавізмы. Так, у памяць пра сваіх наземных продкаў сірэны захавалі лёгкія, канечнасці,ператвораныя ў ласты, і плоскі круглявы хвост. Характэрна, што на кончыках іх ластаў захаваліся тры плоскія кіпцікі.

— Вось, хто такія сірэны, — скончыў я свой аповед.

— А раскажыце пра ламанцінаў і дзюгоняў, — папрасіў юннат-гімназіст.

— Мы абавязкова пагаворым пра іх, але на наступных занятках.

***Аляксей Мухля,***
***кіраўнік клуба даследчых экспедыцый***
***alexej-nam@mail.ru***

# Байкот




Мастачка Юлія Усава

*Аўтар рубрыкі Ліна Багданава*

Дзіяна выбегла на ганак. Халодны зімовы вецер абпаліў шчокі. Расхінуў незашпіленую куртку. Лухта! Яна вытрымае. Дзяўчына зляцела ўніз, павярнула за вугал. Наперад! Куды вочы глядзяць. Галоўнае, далей ад класа. Каб ніхто не ведаў пра яе прыніжэнні. Каб ні адна жывая душа… Слёзы ператвараліся ў сняжынкі, ад якіх скура гарэла полымем. А на душы скрэбліся аб ледзяную корку адчужэння злосныя пінгвіны. Боль станавіўся нясцерпным.

— За што? — шаптала дзяўчына. — Што я ім зрабіла дрэннага?

Дзіяна сапраўды не разумела. Усё ішло як звычайна. Сабраўся клас, вырашаліся пытанні падрыхтоўкі да сустрэчы выпускнікоў. Абмяркоўвалі дзяжурства, за якое класная атрымала вымову. Безумоўна, Дзіяна як стараста павінна была крытыкаваць і заклікаць да свядомасці парушальнікаў. Але такое адбывалася сотні разоў і праходзіла без эксцэсаў. Гультаі і хуліганы дзень-другі хадзілі надзьмутыя, потым разумелі, што са старастай не паспрачацца. Выпраўлялі ўсё, што маглі выправіць. І адукацыйны працэс ішоў сваім ходам. Клас лічыўся адным з лепшых. Жыццё пасля заняткаў біла крыніцай — вечарынкі, цікавыя размовы, конкурсы, паездкі.

— І чаго ім не хапала? Як рыба аб лёд кожны дзень білася, — усхліпвала Дзіяна, бяздумна блукаючы па пустых вуліцах халоднага горада.

Канешне, яна мела права разлічваць на падзяку. Столькі зроблена! І як зроблена! Пра іх гаварылі не толькі на Савеце старшакласнікаў і на лінейцы. Поспехі 8 «Б» не раз абмяркоўваліся на педагагічным савеце, раённых і абласных семінарах, у гарадской газеце.




Мастачка Юлія Усава

Дзіяну ведалі і паважалі ўсе ў школе. Больш за тое, з ёю з пашанай віталіся на пасяджэннях гарадскога моладзевага парламента. Дарослыя прасілі парады. Аднакласнікі шанавалі не менш за класную. Ёй прадказвалі стаць старшынёй Савета, чакалі выбараў.

— І дачакаліся… Выбары праз тыдзень. А пакуль… Пакуль мне аб'явілі байкот. Калі б Пятрова з Санечкіным, а то і адданыя сяброўкі падключыліся. Не надоўга хапіла іх вернасці. На першай купіне сяброўства раскалолася. Добра, перажыву. Самі малайцы, да чаго дакаціліся — да байкоту. Неразумна і банальна. Яны ж і пашкадуюць!

Безумоўна, пашкадуюць, хто яшчэ будзе бегаць па турагенцтвах у пошуку цікавых і адносна танных экскурсій? Хто стане тэлефанаваць усім з паведамленнем аб пераносе мерапрыемства? Хто зоймецца перамовамі з прэсай?

— Хай адчуюць розніцу! — булькатаў у горле адчай.

— Хай пакруцяцца без лідара, — падтаквала зняважанае самалюбства.

Боль і горыч паступова саступалі месца жаданню дзейнічаць. Актыўная натура не прызвычаілася румзаць ля разбітага карыта, яна імкнулася замяніць непрыдатную пасудзіну на новую.

— Сыду, — хлюпала носам Дзіяна, паскараючы крок.

***Самая доўгая вайна — Стогадовая. Вялася паміж Англіяй і Францыяй з 1337 па 1453 гады. Самая кароткая — паміж Англіяй і Занзібарам. Адбылася ў 1898 годзе і доўжылася 38 хвілін.***

Вось толькі куды? У 8 «А»? Дык там ужо начутыя. «Вэшкам», канешне, да лямпачкі, але ёй зусім не хочацца да «вэшак». У іншую школу? А як патлумачыць маме?

Дзяўчына прысела на засыпаную снегам лаўку, выцягнула з кішэні тэлефон. Куды тэлефанаваць? З чаго пачаць новае жыццё?

***Сімпатулька:***

— Як жорстка! За што яны так з табой? Бедная, бедная. Вось так заўжды: стараешся, стараешся, а потым замест «дзякуй» такое вось крыўднае «фу»! Слухай, а можа, і праўда, у «В», калі ім да лямпачкі? Па тваіх словах, там з парадкам не вельмі. Затое будзе дзе разысціся. Уяўляю, як высока падымецца твая новая зорка! Нават крыху зайздрошчу. Хоць мне самой да лідара як да той зоркі — жыцця не хапае на палёт. І да лідарства я не імкнуся. А вось кампанію саставіць магу. Можа пяройдзеш да нас? А што, ідэя…

***Прасунуты старшакласнік:***

— У чымсьці ты, дзяўчына, хітруеш. Не можа быць, каб вось так проста ўвесь клас узяў і замаўчаў. Недзе ты перагнула палку. Ну-ка, асвяжы ў памяці апошнія падзеі. Успомніла? Ужо лепш. А цяпер паспрабуй пракруціць усё да зыходнага пункта. Знайшла? Вось і добранька. А цяпер пакруціся вакол — адкуль у твайго байкоту ногі растуць? Ці ты відавочна перавысіла свае паўнамоцтвы, ці была вінаватая, ці хтосьці імкнецца заняць тваё месца і выкарыстоўвае несумленныя метады. Урэшце, ёсць яшчэ з дзясятак «ці», але іх верагоднасць занадта малая. Мая парада: калі перавысіла — пакайся, папрасі прабачэння, калі не слабо. Калі вінаватая, прызнай памылку і папрасі дапамогі, каб давесці справу да лагічнага завяршэння. Калі вызначыш таго, хто вядзе няшчырую гульню, падзяліся з іншымі — скажы, што згодна змагацца, але сумленна. А калі не атрымаецца, вяртайся і перажыві іх маўчанне. Упэўнены, праз тыдзень усё стане на свае месцы. Бывае, людзі вучацца на сваіх памылках. Удачы.

***Вопытны псіхолаг:***

— У чымсьці згодная з прасунутым: проста так на байкоты не ідуць. Прычына была важкай ці памылка наканаванай. Па тваіх словах, ты лічыла сябе лідарам і шмат для гэтага рабіла. Асабіста мне падаецца, што прычына менавіта ў гэтым. Быць і здавацца — розныя рэчы. Лідар — гэта перш за ўсё, сябар, чалавек, які адказвае за іншых, выконвае агульную для ўсіх справу. Быць лідарам складана. Улада правакуе на перавышэнне паўнамоцтваў. Магчыма, ты палічыш сябе не лідарам, а кіраўніком, і гэта камусьці не спадабаецца. Такое бывае. І да байкоту ў гэтым выпадку можа дайсці. Чым лідар адрозніваецца ад кіраўніка? Кіраўнікоў прызначаюць, лідарамі становяцца. Кіраўнік накіроўвае, лідар рухаецца наперад. Для дасягнення вынікаў кіраўнік выкарыстоўвае ўказанні вышэйшых органаў, ажыццяўляе кантроль; лідар выбудоўвае адносіны на даверы і агульных інтарэсах. Кіраўнік робіць справу правільна, лідар робіць правільную справу. А цяпер паспрабуй выявіць сваю памылку. І знайдзі мужнасць яе выправіць.

Веру, што у цябе ўсё атрымаецца. Удачы!

# Усё залежыць ад нас саміх…



***Прашу вас, сябры, вы толькі не падумайце, што зараз пачнецца лекцыя на тэму «Кожны чалавек — творца свайго шчасця» ці сур'ёзная размова кшталту «сынок, ты павінен добра вучыцца, каб стаць самастойным і самому адказваць за сваё жыццё». Не, зусім не. Я проста паглядзела адзін фільм і захацела падзяліцца ўражаннямі.***

Першы снег штогод абвяшчае: «Спадарства, хутка пачнуцца цуды!» І сапраўды, не паспееш ранкам усцешыцца белай коўдры на яшчэ зялёнай траве, а ўжо пачынаеш адчуваць сябе неяк інакш. Колькі б гадоў табе ні было, якімі б праблемамі ні была занятая твая галава, першы снег дае надзею — чараўніцтва недзе побач.

З такім светлым прадчуваннем блізкай радасці я пачала глядзець фільм «Заплаці іншаму». І што магу сказаць? Цуд не проста побач, ён у кожным з нас. Прадчуваю ваша расчараванне: «О, зноў тая ж песня. Дзе ж гэты цуд ува мне, калі я яго не бачу? Як я магу знайсці яго? Ці не лепш чакаць цудаў ад каго-небудзь іншага?» Сапраўды, наўрад ці мы бачым сябе чараўнікамі, а калі нават і збіраемся мяняць свет, то сутыкаемся з праблемай: а як гэта рабіць? На наша з вамі шчасце, адказ на гэта пытанне знайшоў галоўны герой фільма, сямікласнік Трэвар МакКіні. І прапанаваў нам канкрэтную схему. Вось, глядзіце.

Ад нас не патрабуецца вельмі шмат. Усё, што трэба зрабіць, — тры добрыя ўчынкі для трох розных людзей. А яны, у сваю чаргу, натхнёныя нашымі дзеяннямі, зробяць дабро кожны яшчэ траім. Дабрыня павялічваецца ў геаметрычнай прагрэсіі, і нават цяжка сабе ўявіць, на якую колькасць людзей распаўсюдзіцца праз некалькі ступеняў! Разумееце, усяго тры добрыя ўчынкі! Маме, сябру, незнаёмаму дзядулі на вуліцы — і вось вы ўжо павялічылі сусветны запас шчасця ў тры разы! І нават калі сябар не вельмі чула адрэагуе на ваша дабро, гэта не значыць, што мама з дзядулем не зробяць прыемнага сваім блізкім. «Усё залежыць ад нас саміх», — кажа нам з экрана Трэвар. І тут жа пачынае паказваць, у чым ён бачыць дабро і каму далей збіраецца перадаваць яго эстафету.

Я не буду казаць, якім шляхам пайшлі імпульсы дабра ў фільме, да якіх зменаў у жыцці хлопчыка ці яго сям'і гэта прывяло, бо зусім не хачу псаваць вам інтрыгу. І хоць гісторыя ланцужка дабра заканчваецца на экране праз дзве гадзіны, сама схема пачынае працаваць у рэальным жыцці. На аснове сюжэта (які, дарэчы, напачатку належыць кнізе Кэтрын Раян Хард «Заплаці іншаму») з'явіўся аднайменны дабрачынны фонд, здзейснілася рознымі моладзевымі арганізацыямі вялікая колькасць акцый.

Фільм «Заплаці іншаму» — найлепшы падручнік для тых, хто згодны ствараць цуды і дарыць свята іншым. Цяпер, калі адна з маіх добрых спраў выканана праз гэты артыкул, я іду рабіць іншыя дзве. А вам жадаю добрага прагляду і бясконцага натхнення! Не перарвіце ланцужок!

***Паліна Грыб***

# Мультфільмы, якія неабходна паглядзець

*Усе глядзяць мульцікі: дзеці, іх бацькі, бабулі і дзядулі. Таму што гэта добры сродак адпачыць і пазбавіцца стрэсу. Я сабрала на гэтай старонцы не проста мультфільмы, а цікавыя і прыгожыя гісторыі-казкі, якія падыдуць для аўдыторыі абсалютна любога ўзросту.*

***«Галаваломка»*** — адзін з найлепшых мультфільмаў, якія выйшлі ў пракат у 2015 годзе. Стваральнікі кажуць, што гэта самая складаная гісторыя з усіх, над якімі ім прыходзілася працаваць. Асноўнае дзеянне адбываецца ў галаве адзінаццацігадовай Райлі: там жывуць пяць эмоцый, якія кожны дзень дапамагаюць дзяўчынцы прымаць рашэнні, робяць яе жыццё лягчэйшым, але не могуць наладзіць камандную працу. «Галаваломку» неабходна паглядзець, бо гэта мультфільм, у якім шыкоўная анімацыя і гумар змешваюцца з навуковым тлумачэннем працы псіхікі і мозгу.

***«Валл-і»*** — яшчэ адзін мультфільм студыі Pixar, які варта паглядзець. Ён пра робата, які застаўся на пакінутай Зямлі прыбіраць за людзьмі смецце. Валл-і не проста машына, ён амаль чалавек — з эмоцыямі і перажываннямі. Ён глядзіць фільмы пра каханне, сябруе з тараканам і збірае цікавыя рэчы. Мультфільм пра адзіноту, магчымую будучыню планеты, пра людзей і любоў. Такое абавязкова трэба ўбачыць.

***«Песня мора»*** — ірландскі мультфільм, які значна адрозніваецца ад вышэйназваных. Па-першае, тут «плоская» графіка выклікае разважанні і абуджае самоту. Па-другое, ірландскі фальклор змешваецца з бытавымі праблемамі — і атрымліваецца вельмі сумная казка. Дзяўчаты, якія ператвараюцца ў цюленяў, вядзьмарка-сава, якая забірае эмоцыі людзей, і велічны востраў з маяком. Трэба яшчэ адзначыць музычнае суправаджэнне казкі — нестандартнае, чароўнае. Сапраўдная песня мора.

***«Пад покрывам ночы»*** — мульт-казка пра хлопчыка Ціма, які аднойчы ўбачыў знічку і пайшоў яе шукаць. Ён патрапіў у Накцюрну — краіну сноў. Там жывуць дзіўныя начныя істоты. Ён даведаўся пра таямніцы ночы і тое, што адбываецца, пакуль мы спім. Ну, канешне, ён выратаваў гэтую чароўную краіну ад небяспекі. Вы ведаеце, што галасы зранку не проста так? Што шум за акном — аркестр? Гэты мультфільм — адказ на ўсе пытанні!

***«Ілюзіяніст»*** зроблены па сцэнарыі знакамітага французскага коміка Жака Таці. У гэтым сентыментальным мультфільме пра фокусніка амаль няма слоў, бо галоўнае — дзеянне. У маленькай вёсцы фокусы яшчэ здзіўляюць людзей, але ў вялікім горадзе ўжо не. Гэта і казка пра чараўніка, і сумная гісторыя пра каханне, і аповед пра тое, што людзі перастаюць верыць у цуды, і сум па тым, што некаторыя прафесіі знікаюць. Анімацыя мультфільма простая, двухмерная, але яна так прыгожа паказвае атмасферу і пейзажы Англіі, Францыі і Шатландыі 1950-х гадоў…

Глядзіце мульцікі — яны пра нас!

***Наста Лявінская***

# Хто там?


*Аркаша, прывід*

Стук паўтарыўся.

— Хто там? — перапытала Соня. Цішыня за дзвярыма яе пужала: калі гэта Машка, то жарт недарэчны.

Соня прыўзнялася на дыбачкі і зазірнула ў вочка.

Бессэнсоўна! Лямпачка на лесвічнай пляцоўцы ўжо тыдзень не свеціць, і звонку бясконцая цемра. Куды глядзіць домакіраўніцтва?!

У кватэру чамусці стукалі, а не званілі, і ад гэтага рабілася неяк асабліва жудасна. Хутчэй бы вярнуліся бацькі! Спатрэбілася ім гэтае кіно!

— Гэта я! — пачуўся знаёмы голас.

З палёгкай уздыхнуўшы, дзяўчынка адчыніла дзверы.

— Соня, мне можна зайсці? — спытала Машка, топчучыся на парозе.

— Заходзь, канечне! — заўсміхалася Соня. Яна ўцягнула сяброўку ў пярэдні пакой і хутка зачыніла дзверы. — Ты навошта мяне палохаеш? Я цябе чакаю, чакаю, думала, ты ўжо не прыйдзеш. Што гэта ў цябе?

— Асаблівыя свечкі. Мы ж збіраліся варажыць на Каляды. Ведаю адзін спосаб, вычытала ў інтэрнэце.

Дзяўчынкі размясціліся ля стала.

— Пастаў люстэрка, запалі па баках свечкі. Другое люстэрка пастаў насупраць. Прынясі шклянку з вадой, кінь у яе пярсцёнак, — камандавала Машка. — Цяпер кропельку крыві. Дай мне шпільку!

— Ой! — піскнула Соня, калі сяброўка ўкалола яе палец. — Ды што гэта за варажба такая?

— Называецца «Начны госць». Ты хочаш ведаць будучыню? Патушы святло, глядзі ў люстэркі і паўтарай: «Госць цёмны, начны, не хавайся! Забяры пярсцёнак, пакажы свой твар!»

— Пакажы свой твар! — паслухмяна паўтарыла Соня, узіраючыся ў доўгі люстраны калідор з ланцужкамі свечак. — Нічога не бачу, цені нейкія!

— Убачыш, пачакай трохі, — Маша ўсміхнулася. — Ты, галоўнае, сядзі ціха. Ужо хутка.

Павісла цішыня. Соня глядзела, не адрываючыся, на чорныя плямы, якія, падрыгваючы, расплываліся ў цемры.

— Ой, Машка! Мне здаецца… Маша, там нехта ідзе, з калідора! Што рабіць?

— Нічога не рабіць. Сядзі і чакай, — спакойна адказала Машка.

— Яно спінай да мяне ідзе, я толькі патыліцу бачу. Маша, гэта нейкі дзядзька ў чорным!

— Усё правільна. Няхай падыдзе бліжэй.

— Ды ну яго, я баюся. Табе што, не страшна? Давай запалім святло.

Машка скрывілася:

— Сама ж гаварыла: прыходзь, паварожым… Дачакайся хаця б, калі ён твар адкрые.

— Нешта мне не хочацца бачыць яго твар, — прамармытала Соня.

Цёмная фігура была ўжо за два крокі ад люстраной паверхні. Чалавек пачаў павольна разварочвацца тварам…

У гэты момант зазваніў тэлефон.

— Не адказвай, — загадала Машка.

— Ты што! А раптам гэта мама?

Соня падскочыла, пабегла да тэлефона. Глянула на нумар абанента — і застыла ад жаху.



— Алё, Сонька? — гаварыла трубка Машыным голасам. — Чаго маўчыш? Сонечка, я праўда хацела прыйсці, але мама сказала, што не пусціць мяне ў такую завею, і боты схавала. Соня, мы заўтра можам паваражыць.

Павольна, баючыся таго, што можа ўбачыць за спінай, Соня павярнулася.

У пакоі нікога не было. На патрэсканай паверхні люстэрка чырвоным было напісана: «Табе пашанцавала!»






# Маленькі Шубуршун працягвае падарожжа…



У шэрагу казачных герояў, створаных фантазіяй беларускіх дзіцячых пісьменнікаў, не так даўно з'явіўся яшчэ адзін — Шубуршун.

Гэта здарылася, калі ў «Выдавецкім доме «Звязда» выйшла дзіцячая кніжка «Прыгоды Шубуршуна» вядомага беларускага пісьменніка Алеся Карлюкевіча. У ёй апавядалася, як Шубуршун, які жыў да гэтага на беразе невялікай ракі Балачанкі, патрапіў выпадкова ў мінскую кватэру да дзяўчынкі Веранікі, спачатку пасябраваў з ёй, а потым, пакрыўдзіўшыся на дзяўчынку з-за яе легкадумнага стаўлення да вучобы, адправіўся ў самастойнае падарожжа па Свіслачы ў спадзяванні вярнуцца, такім чынам, на берагі роднай сваёй Балачанкі.

Хто такі Шубуршун, спытаецеся вы? Ды гэта не мае значэння! Народжаны фантазіяй пісьменніка, маленькі герой адважна пераадольвае перашкоды і небяспекі. Лодкай казачнаму герою служыць лускавінка шышкі, і па аднаму гэтаму можна ўявіць сабе, наколькі нялёгкім і поўным прыгод з'яўляецца для яго падарожжа па невялікай (па нашых мерках) Свіслачы. Дарэчы, разнастайныя краязнаўчыя звесткі на дзіва арганічна ўпісваюцца ў асноўную канву казачнага падарожжа. Юныя чытачы «Прыгод Шубуршуна» знайшлі для сябе не толькі захапляльны сюжэт, але і шмат пазнавальнага. А зыходзячы з таго, што па заканчэнні казачнай аповесці падарожжа маленькага Шубуршуна па Свіслачы яшчэ не скончылася, тыя чытачы, якім прыйшоўся даспадобы маленькі падарожнік, вядома ж, чакалі працягу.

І вось, у новай кніжцы Алеся Карлюкевіча, якая называецца «Новыя прыгоды Шубуршуна», казачнае падарожжа працягваецца. Тут таксама шмат прыгод і краязнаўчых звестак. І нават ёсць прыгожае паданне пра тое, як Іван у чужую старану па соль хадзіў і чым гэта для яго скончылася.

А яшчэ Шубуршун трапляе ў мурашнік, дзе знаёміцца з Чарадзейнай Пясчынкай. І яна пасля таго, як маленькі герой з годнасцю прайшоў усе выпрабаванні, паабяцала выканаць самае запаветнае ягонае жаданне.

А жаданне было такое: патрапіць у… Каракумы! А значыць, і на гэтай кнізе прыгоды Шубуршуна не скончаны, і цябе, дружа, чакаюць новыя кнігі і новыя прыгоды маленькага падарожніка.

# Шакаладныя рэкі, вафельныя берагі...




***...арэхавыя рыфы — менавіта так я заўсёды ўяўляла сабе кандытарскую фабрыку. Нават марыла працаваць, а то і жыць у гэтым месцы — настолькі любіла салодкае. І вось дзіцячая мара амаль спраўдзілася — падчас экскурсіі на кандытарскую фабрыку «Камунарка». Смачнае, насычанае водарам ласункаў паветра сустракае на ўваходзе ў кожны цэх. Шакалад, нуга, суфле, памадкі, вафлі напоўнілі яго сабою так, што і яно здаецца густым і смачным, нібы начынка, і адчуваецца, што не ідзеш, а плывеш у ім, бы сапраўды ў салодкай рацэ ў цудоўным казачным краі. Нават назвы цэхаў — карамельна-цукерачны, шакаладны, проста цукерачны — гучаць тут смачна і прывабна.***

Заходзім у апошні — цукерачны — паглядзець, як робяцца цукеркі з нугой. У вялікіх-вялікіх машынах варыцца сіроп. Узбіваецца, перамешваецца з арэхамі і выліваецца на стужку канвеера густой белай смачнай масай. Калі ты ўявіў сабе, як ужо ласуешся ёю, то папярэджваю: асцярожна, тэмпература гэтай вялікай цукеркі — 90 °С. Яе трэба астудзіць і парэзаць.

За тым, як на парэзаныя кавалачкі нугі ліецца гарачы, смачны, духмяны шакалад, можна назіраць бясконца. І словамі гэта не апісаць — трэба на свае вочы бачыць. А вось цукеркі ўжо загортваюць у рознакаляровую «вопратку». У такім выглядзе яны трапляюць у крамы. Такімі ты іх ужо шмат разоў бачыў.



Кіраванне густымі салодкімі плынямі ажыццяўляецца з камп'ютараў.

Але не ўсё так проста. Што для нас любімая начынка, тое для вытворцаў — ілюстрацыя ўмоў і акалічнасцей стварэння цукеркі. Памадка, суфле, жэле, нуга — рэчывы з абсалютна рознымі ўласцівасцямі і характарыстыкамі, таму і цукеркі з імі робяцца вельмі па-рознаму. Вага, памер, форма любімага пачастунку — усё прадугледжана. Частка вытворчых ліній — новенькія, сучасныя, працуюць хутка. Але ёсць ласункі, якія патрабуюць павольнасці, разважнасці. Іх лепш не пераводзіць на новае абсталяванне, хоць і больш магутнае. Новыя тэхналогіі няхай сабе і не мяняюць якасць, але яны робяць смак іншым. Да прадуктаў, якія любяць старыя традыцыі, адносіцца, напрыклад, вельмі мной любімае «Птушынае малако». Суфле для яго ўзбіваецца невялікімі порцыямі, уручную выліваецца і пасля нарэзкі роўна раскладаецца па канвееры. Недалёка ад суфле абсмажваюць з цукрам арахіс, каб потым зрабіць грыльяж.



Пра тое, як робіцца шакалад, можна пісаць асобны рэпартаж.

Дарэчы, павышаная любоў да салодкага тут вылечваецца даволі хутка, як кажа Святла-



Зразумела, калі за смену перад вачыма праходзіць тры тоны цукерак, асаблівага энтузіязму яны ўжо не выклікаюць.

на Гонтарава, начальнік аддзела маркетынгу і рэкламы. Але ж лепей працаваць з шакаладам, чым з каўбасой.

Шакаладны цэх! Вось яно — царства смаку і паху для аматараў ласунку выключна з какава-бабоў. Батончыкі плывуць па лініі павольна, а пліткі вылятаюць з такой хуткасцю, што немагчыма нават злавіць фотаапаратам.

Шакаладны цэх — самы гарачы. Паветра тут яшчэ больш насычанае і смачнае. І такое адчуванне, нібы ты плывеш па цёплай шакаладнай рацэ. Кіраванне густымі салодкімі плынямі ажыццяўляецца з камп'ютараў.

Пра тое, як робіцца шакалад, можна пісаць асобны рэпартаж. Цэх атрымлівае какава-бабы і перапрацоўвае іх: здымаецца шалупінне, бабы смажаць, пускаюць іх пад прэс... У выніку атрымліваюцца цёртая какава, какава-масла і какава-парашок. Апошні выкарыстоўваецца для прыгатавання смачнага духмянага напою, а какава-масла і цёртая какава ідуць у шакалад ці глазуру.

Какава-масла — гэта тлушч, які вылучаецца з какава-бабоў. Ён — самы духмяны з усіх прадуктаў. І вельмі карысны: для тых, хто часта хварэе на прастуды, кавалак какава-масла з гарачым малаком можа быць вельмі прыемным лякарствам.

Тэмпература вялікай цукеркі — 90 °C. Яе трэба астудзіць і парэзаць.





Убачыць гэта на свае вочы можа кожны!

Цікавая рэч: падчас перапрацоўкі какава-бабоў ад масла застаецца толькі шакаладны пах. Увесь смак захоўвае цёртая какава. Але менавіта какава-масла надае шакаладу тую самую класічную цвёрдасць і крохкасць, за якую некаторыя так яго любяць. А ёсць жа і тыя, каму падабаецца малочны шакалад — за яго мяккасць. Каб дасягнуць яе, у ласунак дадаецца яшчэ які-небудзь раслінны алей.

У новы малочны шакалад «План Б» ідзе такі інгрэдыент, як малочны тлушч. «Як сметанковае масла без вады», — вызначыла Святлана Аляксандраўна. Усімі любімая шакаладка «Алёнка» мяккая менавіта таму, што ў ёй шмат малака і вяршкоў.

Убачыць гэта на свае вочы можа кожны! Штодзень «Камунарка» прымае экскурсіі. Адну з іх мы і сустрэлі — школьнікаў у прыгожых чырвоных халатах. «Каб не згубіліся», — тлумачыць Святлана Аляксандраўна. Падчас экскурсіі можна і прадэгуставаць цукеркі, і атрымаць іх з сабой у падарунак.

***Кацярына Захарэвіч***

***Фота — Рагнеда Юргель***

## Чытаем ікону

5

*На аблоках з нябёсаў сыходзіць архангел Міхаіл. Ён увасабляе ўсіх нябесных анёлаў, якія радасна спяваюць на нябёсах у гэтую святую ноч.*

2

*Пад страхою хлява стаяць Божая Маці Марыя і святы Іосіф. Марыя запрашае вешчуноў, якія прыйшлі пакланіцца Хрысту, падысці бліжэй да яселек. Іосіф трымае ў руках кіёк, гэта гаворыць пра яго ўзрост.*




***Нараджэнне Хрыстова. 1746. Латыгаўскі майстар. Нацыянальны мастацкі музей.***

4

*Паводле падання над тым месцам, дзе адбылося нараджэнне, заззяла яркая зорка. Гэта стала сімвалам святла, радасці і міру. Менавіта таму калядоўшчыкі носяць ад хаты да хаты вялікую калядную зорку.*

3

*Вешчуны з далёкіх краін прынеслі нованароджанаму разнастайныя падарункі: золата, ладан і духмяны алей.*

1

*Спавіты немаўлятка Хрыстос ляжыць у ясельках на саломе, а вакол яго цела бачна Боскае ззянне. Калі прыглядзецца, то можна заўважыць, што Ён падперазаны чырвонай стужкай. Па народных уяўленнях, гэта павінна засцерагчы ад хваробы і ліхога вока.*

6

*Каля яселек стаяць вол і ослік. Яны сімвалізуюць усіх жывёл, якіх стварыў Бог. Гэта значыць, што і жывёлы адчулі: гэтая ноч сапраўды незвычайная, таму што нарадзілася Божае Дзіця.*

# Нараджэнне Хрыстова

Аднойчы праведны Іосіф і святая Марыя з горада Назарэта, дзе яны жылі, адправіліся ў горад Віфлеем. Там у гэты час з нагоды народнага перапісу сабралася шмат людзей, і ўсе дамы і нават маленькія хаткі былі занятыя.

Што рабіць? Іосіф і Марыя ішлі пешшу, стаміліся і хацелі адпачыць. Ледзь змаглі яны ўпрасіць аднаго добрага чалавека, каб дазволіў ім пераначаваць у пячоры, куды ў кепскае надвор’е заганялі жывёлу для начлегу.

У той краіне, дзе гэта адбывалася, зімы не бывае, а таму пастухі і іх жывёла свабодна праводзяць ночы ў полі. Гэтая ноч была асабліва светлая і цёплая, а таму выкапаная ў гары пячора, па-нашаму хлеў, была свабодная.

Гаспадар дазволіў Іосіфу і Марыі пераначаваць у ёй. Вось у гэтай пячоры і нарадзіўся маленькі Ісус Хрыстос. Марыя вымушана была пакласці Яго на салому ў яслі, прызначаныя для кармлення скаціны, замест люлькі.

Над пячорай, дзе нарадзіўся Ісус Хрыстос, па загадзе Божым заззяла незвычайна прыгожая вялікая зорка. Яе ўбачылі вешчуны з усходніх краін. Ззянне паказала ім шлях да таго месца, дзе нарадзіўся немаўлятка Хрыстос. Вешчуны прыйшлі да Віфлеема, каб пакланіцца народжанаму Богу.

***Дзмітрый Салодкі***

## Вакол Бібліі

Біблія — гэта, калі літаральна, Кніга. Кніга, тэкст якой з’яўляецца свяшчэнным.

Слова «Біблія» ў свяшчэнных тэкстах не ўжываецца, яно пачало выкарыстоўвацца толькі ў IV стагоддзі Іаанам Златавустам. Калі пералічыць усіх біблейскіх персанажаў, то спіс расцягнецца на больш чым тысячу імён. Біблія выдадзена ў колькасці 4,7 мільярда кніг і перакладзена больш чым на 2 400 моў свету.

Біблія складаецца з кніг Старога Запавету і Новага Запавету.

Запавет — гэта саюз Бога з людзьмі. Старым Запаветам (то бок, старой, даўнейшай дамоўленасцю) называецца час ад стварэння свету да прышэсця Збавіцеля. Людзі павінны былі памятаць абяцанне (абетаванне) Божае, верыць і чакаць прышэсця Хрыста. Выкананне гэтага абяцання — прышэсце на зямлю Збавіцеля, Адзінароднага Сына Божага, Госпада нашага Ісуса Хрыста — называецца Новым Запаветам, таму што Ісус Хрыстос, з’явіўшыся на зямлю, перамогшы грэх і смерць, заключыў з людзьмі новую дамову, або саюз, паводле якога ўсе зноў могуць атрымаць страчанае блажэнства — вечнае жыццё з Богам праз заснаваную Ім на зямлі Святую Царкву.

***Заданне: вызначы, хто якія часткі Бібліі пісаў***



# Крыжаванка на Вадохрышча



**Па вертыкалі:**

1. Халодны будынак для захоўвання мукі, збожжа і іншага.
2. Старажытнаегіпецкі бог Сонца.
3. Прадмет хатняга абсталявання для сядзення.
4. … ў тым доме, дзе куры пяюць, а пеўням волі не даюць (прыказка).
6. Частка сякеры, процілеглая лязу.
7. … Хрысціцель. Імя святога, прарока, які хрысціў Ісуса Хрыста ў рацэ Іардан.
8. …! Слова, якім выказваецца захапленне.
9. Тоўсты блінец. Па ім дзяўчаты варажылі напярэдадні Вадохрышча; лічылася, чыю … сабака схопіць першую, тая дзяўчына хутчэй пойдзе замуж.
10. Драўляная перакладзіна ў санях.
13. Богаяўленне, Хрышчэнне, … . Адна з назваў Вадохрышча.
15. Невялікае возера.
18. Згода на што-небудзь.
20. … на куццю — ранняя вясна і благое лета (прыкмета).
22. Вялікая капа сена, саломы.
23. «Як …, белыя бярозы//Пад сінявой начной стаяць,//У небе зоркі ад марозу//Пахаладзеўшыя дрыжаць». З верша М. Багдановіча «Зімой».
24. Колькасць крыніц («Ярданяў»), з якіх раілася браць святую ваду, каб вада была найбольш моцнай, гаючай.
25. Хрышчэнскі … абяцаў урадлівы год, грыбное лета, але чакалася чарвівая капуста (прыкмета).
26. Той, хто вельмі любіць спяваць.
28. Паслядоўнік ёгі.
29. Кармавая надбудова судна.

**Па гарызанталі:**

1. … або страляніна. На Вадохрышча, 19 студзеня, … з ружжаў адпужвалі ад усялякай нечысці палонкі з асвечанай вадой, якія на Беларусі называлі «Ярданямі».
5. На Вадохрышча … — на Вялікдзень таксама (прыкмета).
11. Посная, галодная куцця або … . Вячэра перад Вадохрышчам, якая спраўлялася 18 студзеня; Вадохрышчам завяршаліся калядныя святы.
12. «Марозік крэпіць, лёд таўшчэ,//І … вольная нямее». З паэмы Я. Коласа «Новая зямля» («На рэчцы»).
14. «Хаваецца ў будоўліны//Жывёла і …». З верша Я. Купалы «Зіма».
16. … або не еўшы нічога; так раілася смакаваць асвечаную ваду.
17. Драўнінная і хмызняковая расліна, на якую, паводле павер'яў, перасяляецца чорт з асвечанай вады.
18. На Вадохрышча … цёплы — будзе хлеб цёмны (прыкмета).
19. Лічылася: калі на Вадохрышча на небе … — то і ў засеках будзе … .
21. Прыгатаванне цеста.
26. Свята беларусаў-католікаў, якое адзначалася 25 студзеня; у гэты ж дзень беларусы-праваслаўныя адзначалі свята студэнтаў — Таццянін дзень.
27. Манастырская сталовая.
30. Род шарады або загадкі.
31. Мясцовае аддзяленне якой-небудзь установы або прадпрыемства.

***Склаў Лявон Целеш, Дзяржынск***

**Адказы:**

*Па гарызанталі:* 1. Стральба. 5. Завіруха. 11. Вадзянуха. 12. Рэчка. 14. Народ. 16. Нашча. 17. Вярба. 18. Дзень. 19. Чыста. 21. Замес. 26. Павел. 27. Трапезная. 30. Лагагрыф. 31. Агенцтва.

*Па вертыкалі:* 1. Свіран. 2. Ра. 3. Лава. 4. Бяда. 6. Абух. 7. Іаан. 8. Ух. 9. Аладка. 10. Вяз. 13. Кшчэнне. 15. Азярына. 18. Дазвол. 20. Адліга. 22. Стог. 23. Мары. 24. Сем. 25. Снег. 26. Пяюн. 28. Ёг. 29. Ют.

# Зрабі пластылін




Усім знаёмы пластылін «вынайшлі» амаль адначасова ў канцы XIX стагоддзя англічанін Вільям Харбут і немец Франц Колб. Змяшалі парашок гліны з вазелінам і стэарынавай кіслатой — і атрымалі пластычнае рэчыва шэрага колеру. Калі замест гліны бралі парашок мелу — пластылін атрымліваўся белым.

Скульптарам шэры і белы пластылін спадабаўся адразу, а вось для дзяцей пластылін пачалі рабіць рознакаляровым, дадаючы ў яго розныя фарбавальнікі.

***Хочаш сам зрабіць пластылін? Тады чытай рэцэпт «хатняга» варыянта:***

***1 шклянка халоднай вады, 1 шклянка солі, 3 шклянкі мукі, 2 сталовыя лыжкі алею, 2 сталовыя лыжкі крухмалу. Усё перамешваецца ў місцы да аднароднай масы. Для афарбоўкі можна выкарыстаць «харчовыя фарбавальнікі», а можна і самім іх зрабіць. Да прыкладу, у чырвоны колер «хатні пластылін» афарбуе сок бурака, у аранжавы — сок морквы, у зялёны — сок шпінату, у блакітны — настой чаю «каркадэ».***

І пластылін гатовы! Адзіны яго недахоп — кароткі тэрмін захавання. Каб хоць крыху яго павялічыць, закручвай свой «пластылін» у поліэтыленавую плёнку. Затое, калі малодшы брацік або сястрычка возьме такі «пластылін» у рот — нічога страшнага не здарыцца.

***Папяровы ліст фармату А4 для прынтара можна скласці напалам не больш чым сем разоў. Не верыце? Праверце.***

***А для святочнага стала можна зрабіць і па-сапраўднаму «ядомы пластылін».***

***Вазьмі 2 шклянкі арахісавага масла і 6 сталовых лыжак мёду, змяшай іх у місцы і дадавай па крыху абястлушчанае сухое малако, пастаянна перамешваючы, пакуль не атрымаецца маса «пластылінавай гушчыні». Потым яе таксама можна афарбаваць у розныя колеры ядомымі фарбавальнікамі, вылепіць што-небудзь і прапанаваць сябрам са словамі: «Смачна есці!»***



Я часта наведваю сваю бабулю. З ёю вельмі цікава размаўляць: яна ведае шмат таямнічых, цікавых гісторый пра паходжанне лясоў і вёсак. Хачу пазнаёміць вас ажно з трыма паданнямі, пачутымі ад яе. Было тое на самай справе ці не — ніхто не ведае, але старыя людзі расказваюць…

**Дар'я Каскевіч, 5 клас, гімназія № 1, Свіслач (Гродзенская вобласць)**



## ПРА ВУЖОВАГА КАРАЛЯ

Жыў у нашых мясцінах у даўнія часы сам Вужовы кароль. Надта яго ўсе паважалі і нават крыху пабойваліся — бо нельга было схаваць ад яго ні думак сваіх, ні памкненняў. Людзі яшчэ толькі задумаюць штосьці не тое, а ад караля ўжо пасланцы паўзуць: «Не спяшайцеся гэта рабіць! — сыкаюць. — Наш кароль перасцерагае вас, каб чаго ліхога з вамі не здарылася».



Дзякавалі шчыра за такія словы вяскоўцы і далей займаліся будзённымі справамі, а калі планавалі пачынаць нешта новае — абавязкова папярэджвалі Вужовага караля. Ён нічога не забываў, пра ўсё памятаў. Адрозніваўся ад астатніх гэты вуж тым, што быў вельмі вялікі, меў на галаве агністую карону, а яшчэ мог на хвасце хадзіць, нібы чалавек. Праўда, здаралася такое толькі ў асабліва адказныя моманты.

Казалі, што Вужовы кароль некалі быў звычайным чалавекам, паходзіў з княжацкага роду, але аднаго разу нечым не дагадзіў злой вяшчунцы, і тая яго ў вужа ператварыла і, пырскаючы слінай, пракрычала: «Памерці магчымасці доўга мець не будзеш! Усіх родных ды блізкіх пахаваеш, мову птушак, жывёл, зямлі, лесу і азёраў разумець будзеш, а вось сказаць па-чалавечаму ні слова не здолееш! Век будзеш поўзаць у вужачай скуры. Гэта табе мая помста!»

Таму і разумеў усё Вужовы кароль, таму і перасцерагаў людзей праз сваіх памочнікаў, любым чынам імкнуўся дапамагаць сялянам, бо не забываўся пра тыя часы, калі сам быў чалавекам. У надзвычай тэрміновых і важных выпадках папярэджваў: свістаў такім страшэнным свістам, што лістота з дрэваў абсыпалася.

## ЯК ВУЖОВЫ КАРОЛЬ ЗЛУЮ ГАДЗЮКУ ПАКАРАЎ

Здаўна тут павялося: людзям не дазвалялася забіваць гадаў, а гадам — кусаць людзей. Так і жылі мірна ды ў згодзе. Сам Вужовы кароль сцвярджаў: «Нікому не даруюцца грахі, хто б ні быў — чалавек альбо вуж з гадзюкай. Вінаваты — адказвай!»

І вось неяк у адной невялікай вёсцы, што тулілася сярод бяскрайніх лясоў, гадзюка ўкусіла малую дзяўчынку, і тая памерла. Мала таго, гадзюка не прызналася валадару ў гэтым злачынстве. Але ад яго ж не схаваешся, ён жа наперад усё ведае. Паслаў слуг, каб тыя прывалаклі нягодніцу да яго. Але гадзюка не стала апраўдвацца, як усе чакалі, а пачала нападаць на караля і папікаць яго тым, што ён не да ўсіх аднолькава ставіцца, што больш людзей любіць, чым яе суродзічаў.

— Не ў гэтым рэч, — зазначыў Вужовы кароль. — Я заклікаю ўсіх жыць мірна. Чым табе немаўля нашкодзіла?

— Нічым не нашкодзіла — сыкнула гадзюка. — Але я не хачу, каб людзі забываліся, што я змяя і што мяне трэба баяцца.

— Дык ты ж забіла безабароннае дзіця! — прасіпеў у адказ Вужовы кароль. — Навошта безабаронных чапаць, вымушаць людзей помсціць нам?

Але словы валадара не даходзілі да злой гадзюкі, усім сваім выглядам яна паказвала сваю незалежнасць і ганарыстасць. Тады Вужовы кароль вырашыў пакараць забойцу — ператварыў яе ў простага чарвяка. З таго разу ніхто з гадаў болей не парушаў парадак. І людзі сачылі пільна, каб ніхто не крыўдзіў ні вужоў, ні гадзюк. Калі ж, здаралася, чалавек наступаў на гада і той яго за гэта кусаў, то ўсё старанна потым правяралася, выклікаліся ўсялякія сведкі, якія ці пацвярджалі невінаватасць чалавека, ці, наадварот, указвалі на тое, што ён гэта зрабіў наўмысна. Вось які быў Вужовы кароль.

## АДКУЛЬ ПАЙШЛА НАЗВА ВЁСКІ ДАБРАВОЛЯ

За доўгія гады людзі прызвычаіліся да гадаў, найболей да вужоў, бо тыя не баяліся жыць непадалёку ад жытла сялян, а то і ў хацінах. Іх сталі лічыць хатнімі. Калі гаспадары з дзецьмі сядалі вячэраць, то і вуж поўз да стала, і яму налівалі малака ў якую місу ці ў чарапок. І верылі людзі: у якім доме жыве вуж, там заўсёды шчасце і дабрабыт. Калі здыхаў той хатнік, дык гаспадар не выкідаў ягонае цела, а рабіў з яго своеасаблівы абярэг, каб і потым вуж дапамагаў. Адбывалася ўсё наступным чынам. З вужа здзіралі скурку, вытаплівалі тлушч, рабілі свечку і зберагалі яе на чорны дзень. Калі ж нападала на гаспадара якое ліха, пачынаў уціскаць багацей ці нядобразычлівец, тады чалавек браў свечку, чакаў вечара і запальваў яе. Свечка гарэла надзіва яркім полымем, заходзіла ва ўсе цёмныя і непралазныя мясціны, абуджала там усіх вужоў. І паўзлі яны на дапамогу, а наперадзе — сам Вужовы кароль. Яму ўсе дарогу давалі — і бедныя, і багатыя, і ліхія, і добрыя. І гэтак жа нечакана вужы знікалі. Толькі доўга яшчэ гучаў іхні напамін:

— Па добрай волі жывіце! Па добрай волі!

Кажуць, калі той Вужовы кароль усё ж сканаў, то ўсе плакалі, галасілі, нібыта па самым блізкім з родных. Пахавалі яго недзе тут, непадалёку. Таму паселішча з тых часоў пачалі называць Дабраволя.

***Мастачка Марыя Кулага***

# Вандроўкі

На маю думку, няма лепшай тэмы для пачаткоўца, чым вандроўка. Яна сама па сабе прадугледжвае, што нешта павінна здарыцца. І тут ужо можна развіваць любы жанр: і дакументалістыку, і дэтэктыў, і прыгоды, і містыку.

Узгадайце хоць бы пачатак фантастычнай аповесці Вацлава Ластоўскага «Лабірынты», якая пабачыла свет у 1923 годзе: *«Ад некалькіх гадоў стала ў мяне звычаем выязджаць на тыдзень-два ў які-колечы закутак Беларусі для апазнання роднай старасвеччыны»*. Здаецца, што аўтар і не казаў нічога асаблівага, а мы ўжо заінтрыгаваныя. І вельмі хочацца дазнацца, што ж будзе далей. І вось Ластоўскі працягвае: *«Мяне даўно маніў к сабе наш сівагорбы Полацак сваім рамантычным мінулым, сягаючым у легендарныя часы, і гэтага году я пастанавіў сабе пару вольных летніх тыдняў правесці ў Полацку. На маю пастанову астаточна заважыў ліст, атрыманы з Полацка ад тамтэйшага аматара-археолага Івана Іванавіча, які даносіў, што каля яго ўтварыўся кружок любіцеляў старасвеччыны з мясцовых жыхароў»*. Зразумела, што такі аматар старажытных каштоўнасцей, як Власт, не мог адмовіць Івану Іванавічу ў яго просьбе і прыехаў. А далей панесліся бясконцым калейдаскопам прыгоды аўтара ў старажытным Полацку. Сусветнавядомы скарбашукальнік Індыяна Джонс пазайздросціў бы нашаму Власту, столькі ён усяго пабачыў і перажыў. І гэта я без жартаў.

Калі я быў у тваім узросце, то ездзіў на вакацыі ў вёску да бабулі. Там у хаце без перапынку гучала беларускае радыё. У цяперашнюю эру лічбавай тэхнікі

гэта сапраўдны рарытэт і атавізм у адным флаконе. Па вечарах па радыё перадавалі радыёпастаноўкі з беларускай літаратуры. Гэта як аўдыякнігі, толькі лепш, бо акрамя тэксту перадаюць яшчэ цалкам і атмасферу твора. І вось я пачуў «Лабірынты» Ластоўскага — ускочыў на ложку, сеў і слухаў. Нават на хвілінку не мог адарвацца, так было цікава. А пасля доўга шкадаваў, што няма такога фільма…

З іншага боку, прыдумаць такі сюжэт далёка не кожны здольны, для гэтага трэба быць сапраўдным майстрам пяра. Але як вам такі варыянт: начным цягніком на радзіму вяртаецца чалавек, які шмат гадоў не быў дома. Едзе не адзін, у кампаніі, але думкамі пагружаны ў сябе. Глядзіць на памежнікаў, на пасажыраў, слухае, пра што яны размаўляюць, на якой мове. Апісвае начныя вакзалы, залы чакання, гарады на сваім шляху і іх жыхароў.

Гэтым разам ніякай фантастыкі, чыстая дакументалістыка, але ж чытаецца не менш цікава. Власт здолеў перадаць у сваім артыкуле «Уражанні ад паездкі ў Беларускую Радавую Сацыялістычную Рэспубліку» ўсю гаму пачуццяў, якая ўласцівая эмігранту, што вымушана пакінуў радзіму, а цяпер атрымаў мажлівасць пабываць дома. Гэты тэкст, дарэчы, быў апублікаваны ў часопісе «Маладосць» у 1991 годзе. З яго мы можам хоць бы крыху ўявіць, як выглядалі ў 1926 годзе Рыга, Віцебск, Полацк і Мінск.

Яшчэ адзін прыклад. Усе ведаюць пра кнігу Эрнэста Хэмінгуэя «Свята, якое заўсёды з табою», у якой вялікі амерыканец апісаў Парыж сваёй маладосці, калі ён яшчэ не быў вядомым пісьменнікам. Чытачы дагэтуль у захапленні, многія літаратары мрояць напісаць нешта аналагічнае, і ўсе цытуюць гэты твор. І ўсе любяць міжваенны Парыж. А што, калі я скажу табе, што існуе тэкст беларускага пісьменніка, які быў у Парыжы ў той жа самы час, што і Хэмінгуэй? Крута, праўда?

Не так даўно выпадкова пабачыў невялікі травэлог Цішкі Гартнага «За аглядам Парыжа», які датуецца 1928 годам, акурат калі ў ім жыў і пісаў свае шэдэўры малады Хэм. З вялікай цікавасцю прачытаў, як дзякуючы амерыканскім легіянерам Цішка Гартны са сваёй кампаніяй змог наведаць Grand Opera, не набываючы смокінга. А яго згодна з правіламі набываць трэба было. Ну, і вежа Эйфеля — куды ж без яе.




***Тхары — вельмі гнуткія жывёлы, і людзі часта выкарыстоўваюць іх для пракладкі кабеляў у цяжкадаступных месцах. Гэта тхары дапамагалі працягнуць правады ў Букінгемскі палац перад вяселлем прынца Чарльза і прынцэсы Дыяны.***



У прыведзеных прыкладах ёсць адна важная дэталь — пісьменнік змог цікава адлюстраваць сваю эпоху, так, каб і праз дзясяткі гадоў чыталася з цікавасцю не толькі спецыялістамі-гісторыкамі, але і простымі аматарамі прыгожага пісьменства.

З асабістага досведу магу адзначыць, што пісаць нешта ў вандроўках і пра вандроўкі заўжды мае сэнс. У канцы 2012 года мне давялося трапіць у Данію і пажыць там некаторы час. Акурат у тую пару Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, Інстытут нямецкіх даследаванняў пры Беларускім дзяржаўным універсітэце і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў аб'явілі пра літаратурны конкурс «Зімовыя святы». Літаральна за вечар я напісаў невялікі тэкст «У чаканні Калядаў», у якім распавёў пра тое, як сустракаюць Каляды ў Даніі. Напісаў і забыўся, а калі вярнуўся ў Беларусь у канцы снежня, то даведаўся, што на гэтым конкурсе мой тэкст заняў другое месца і я нават атрымаў прызы. Пасля я напісаў яшчэ адзін тэкст на скандынаўскую тэматыку — «Кронбарг, замак Гамлета», які надрукавалі ў мінулагоднім сакавіцкім нумары часопіса «Маладосць».

Летась з жонкай выправіліся ў вясельнае падарожжа на Балканы. Па дарозе праехалі Польшчу, Славакію, Аўстрыю, Венгрыю, Сербію і Чарнагорыю. За час вандроўкі я зрабіў такія-сякія занатоўкі, якія аформіліся ў тэкст «Немаленькая краіна». Пісаў я яго, калі мы вярталіся дамоў, пакуль ехалі ад польскай мяжы да Мінска, пасярод ночы, пад святло смартфона.

Што атрымалася? Мне цяжка меркаваць, але на Літаратурным конкурсе A-LOVak, які праводзіўся пад эгідай мультымедыйнай платформы Litara-A, ён перамог у намінацыі «Лепшае эсэ». Зноў, як і мінулым разам, у канцы года і зноў з падарункамі. Як высветлілася, пісаць пра вандроўкі не толькі цікава, але і карысна. Заўжды ёсць верагоднасць атрымаць нейкі сувенірчык!

Насамрэч для напісання вандроўных нататак існуе безліч варыянтаў, галоўнае — разагнаць сваю фантазію, уключыць назіральнасць і — пісаць.

***Канстанцін Касяк***

***Часопіс «Бярозка» заклікае да напісання тэкстаў-вандровак і абяцае каштоўны падарунак кожнаму, хто такі тэкст дашле ў рэдакцыю!***

# Я — МАСТАК
# № 1

## У выпуску:



Адкрыта запрашэнне для мэтраў сучаснага выяўленчага мастацтва ў рэдакцыйную калегію



*Алеся Галота*

Вітаю, калега!

Вітаю ў свеце знаёмым і невядомым! Смялей далучайся да нашай суполкі пасвечаных у мастацтва. Адкрый для сябе класны шлях рэалізацыі!

Калі хочацца нешта стварыць, трэба дазволіць сабе гэта зрабіць. Умееш ці не — няважна! Галоўнае — навучыцца вучыцца. Навучыся вучыцца маляваць! На гэтых старонках мы збіраем асоб, у якіх «чэшуцца рукі». Тут можна знайсці «таварышаў па шалёнасці». Можна натыкнуцца на будучага куміра — бо мы сустракаемся з маладымі класнымі творцамі, якія ўжо даўно спазналі кайф ад мастацтва і маюць стабільную «сувязь з космасам». Публікуем рэпрадукцыі іх твораў і знаёмім з іх стаўленнем да свету. Акрамя таго, друкуем тут шыкоўны твор сусветнага мастацтва, каб ты, калі раптам мінуў ён цябе, змог пабачыць і «прачытаць» яго з падачы мастацтвазнаўца.

Што яшчэ? Майстар-клас для «чайнікаў». Калі жадаеш маляваць, але пакуль што толькі зайздросціш тым, хто гэта робіць, — для цябе «Я канцэпт-мастак». Мы падбіраем такі алгарытм стварэння ілюстрацыі, каб можна было без асаблівых навыкаў, маючы звычайную чалавечую логіку, навучыцца ствараць выявы простых з'яў і аб'ектаў жыцця.



# «Мастацтва — вельмі канкрэтная рэч»

Дар'я Бунеева

***— Я малюю, колькі сябе памятаю! І гэта нават не ўлюбёнасць у мастацтва — гэта лад жыцця. Не ўяўляю сябе па-іншаму… Беларуская мастачка Дар'я Бунеева ўсміхаецца, згадваючы свой шлях да творчасці. У невялічкай майстэрні акрамя нас — чарапашка і адна праца майстра, карціна «ICHTHYS». Усё проста і сціпла. Як і сама гераіня сустрэчы. Адкрытая, шчырая, нейкая святляная знутры, Дар'я ніяк не адпавядае агульнапрынятаму вобразу мастака: асобы рамантычнай, летуценнай, самазакаханай і непрадказальнай.***

— Мне заўсёды падабалася маляваць. Мама кажа, што дзесьці года ў паўтара з'явіліся мае першыя «творы» — гусачкі, розныя іншыя жывёлкі, бацька ў акулярах... У восем гадоў я пайшла вучыцца ў Баранавіцкую мастацкую школу. З таго часу любоў да мастацтва пераўтварылася ў нешта больш канкрэтнае. Ужо ў шостым класе я аб'явіла бацькам, што буду паступаць на мастака. Мама з татам, журналісты па адукацыі, не ўспрынялі маё рашэнне сур'езна. Я ж была дзяўчынкай «узорнай». Хоць часам канфліктавала з настаўнікамі. Як змагар, актыўна адстойвала свае правы і свабоды. Выдатніца, паспяховая ўдзельніца ўсіх магчымых дэбатаў і алімпіяд, ды яшчэ лепшая вучаніца мастацкай школы — я лічыла сябе зоркай.

*Але паступіць у мастацкі каледж з першага разу Дар'я не здолела. Напэўна, таленавітая дзяўчынка недастаткова сур'езна паставілася да такой важнай справы. Гэта быў моцны ўдар. Аднак будучая мастачка вырашыла: няхай у наступным годзе, але паступлю! Яна не вяртаецца ў школу, а рыхтуецца да іспытаў і — малюе, малюе, малюе. Месяцы працы, час хваляванняў і пераасэнсавання жыцця. Гэты «прамежкавы» год Дар'і Бунеевай запомніўся як перыяд сталення, як вельмі добры вопыт. Дзяўчына навучылася ставіць перад сабой мэты і дасягаць іх.*

*Сёння Дар'я малюе, піша кандыдацкую ў аспірантуры Акадэміі навук, выкладае ў мастацкім каледжы імя А. К. Глебава. А яшчэ яна старшыня моладзевай секцыі Саюза мастакоў. За плячыма засталіся такія цікавыя і жаданыя калісьці гады навучання ў мастацкім каледжы імя І. В. Ахрэмчыка і вучоба на манументальна-дэкаратыўным аддзяленні ў Беларускай акадэміі мастацтваў. У жыцці мастачкі больш жорсткіх выпрабаванняў не было. Цяпер яе дні праходзяць спакойна, размерана. Але, як і раней, застаецца праблема — недахоп часу. Яшчэ са школы Дар'я прывыкла браць на сябе зашмат абавязкаў. Таму дзяўчына заўсёды нечым перагружана, ад чаго і пакутуе.*

— Я мару, што калі-небудзь змагу адмовіцца ад усяго і стаць вольным мастаком. Хочацца рабіць тое, што падабаецца мне, і быць пры гэтым запатрабаванай. Хочацца, каб мае творы кагосьці радавалі. Мастаку патрэбна не працаваць «у стол», а выстаўляцца, прадавацца, мець замовы. Хочацца таксама, каб мяне ведалі і паважалі іншыя прафесіяналы з маёй сферы. І справа тут зусім не ў жаданні быць вядомай і знакамітай. На жаль, у сувязі з агульнай эканамічнай сітуацыяй маладым мастакам цяжкавата. Я арганізоўваю выставы, адпрацоўваю размеркаванне, афармляю кніжкі, займаюся дызайнам вокладак і роспісам сцен, ствараю эскізы для вітражоў. Так што пакуль мастацтва «для сябе» і мастацтва «для грошай», як і ў многіх маіх знаёмых, звязана паміж сабой вельмі ўмоўна. Хаця нядаўна першы раз у жыцці Музей гісторыі Мінска набыў маю работу, карціну «Шпацыр па Каліноўскага». Я цяпер вырашаю пытанне самарэалізацыі. Мастацтва — тое, што мяне радуе. Любімы спосаб баўлення часу. Калі малюю, я адпачываю і разважаю, атрымліваю сапраўдную асалоду. У мяне ніколі не было рамантычнага ўяўлення, што мастакам жывецца прывольна. Не было вялікіх ілюзій ды надзей. Мастацтва — вельмі канкрэтная рэч. Тут працы больш, чым рамантыкі. Мастак павінен быць байцом, мець у сабе энергію







Мастак павінен быць байцом, мець у сабе энергію і сілы пераадольваць абставіны





і сілы пераадольваць абставіны. Магчымасцей для развіцця такіх байцоўскіх здольнасцей жыццё падкідвае нямала.

Я рада таму, як складваецца маё жыцце. У мяне ёсць майстэрня. Лічу, у гэтым мне вельмі пашанцавала. Яшчэ я даволі актыўна выстаўляюся, знаходжу час на свае творы. Трэба быць удзячнай лёсу. Самае галоўнае — мне па-ранейшаму цікава займацца творчасцю.

*Сярод прац Дар'і Бунеевай можна сустрэць гістарычныя творы, урбаністычныя пейзажы, нацюрморты, кампазіцыі па матывах вандровак. Як прызнаецца мастачка, яе натхняюць самыя звычайныя, побытавыя рэчы. Убачыць паэзію ў будзённым — вось для яе асалода. Адназначна прыгожыя малюнкі прыроды ці ідэальныя тварыкі Дар'ю не цікавяць. Ва ўсім ёй важна знайсці сваё мастацкае вырашэнне.*

*Школьніцай яна ўдзельнічала ў гістарычных алімпіядах, пазней валанцёрам ездзіла на археалагічныя раскопкі. Ды і замуж выйшла не за каго-небудзь, а за гісторыка. Адсюль — гістарычная плынь у творчасці: Барбара Радзівіл, Жыгімонт Аўгуст, Міндоўг — яны глядзяць з карцін Дар'і Бунеевай, нібыта жывыя.*

— Я люблю сярэдневяковае мастацтва, дзе ёсць наіўнасць, прастата. Люблю ранняе Адраджэнне — Джота, Мазача, інсітнае мастацтва — Пірасмані, Алену Кіш. У любым мастацкім перыядзе мне падабаюцца яго раннія стадыі, калі мастакі яшчэ не дасягнулі росквіту. Непрымальна для мяне, калі ўменне мастака становіцца дамінантай яго творчасці. Сярод беларускіх творцаў выдзяляю Уладзіміра Савіча і Мікалая Селешчука. Яны таксама паўплывалі на мяне калісьці. Мне здаецца, што беларускае мастацтва да гэтага часу развіваецца ў цені гэтых мастакоў. Але трэба рухацца далей, адыходзіць ад звыклых уяўленняў. Наша сучаснае мастацтва мне падаецца даволі цікавым. Пры гэтым існуе праблема: вельмі вузкае кола гледачоў. Хто малюе, той і наведвае выставы. Асноўная ж маса людзей у свеце мастацтва не арыентуецца зусім. Але я настроена даволі аптымістычна. Гісторыя сведчыць, што мастацтва часта развіваецца насуперак абставінам. Многія сур'ёзныя мастакі дасягнулі вядомасці і прызнання, хоць у іх для гэтага, здавалася б, не было ніякіх умоў.

Я вельмі люблю сваю краіну. Мінск для мяне — ідэальны горад, ён адпавядае майму душэўнаму складу. Таму за мяжу не імкнуся. Канешне, хочацца вандраваць, але — абавязкова вяртацца дадому. Не ўяўляю, як можна адарвацца ад гэтага культурнага кантэксту, ад спадчыны.

***Анастасія Сасноўская***

***Фотаздымкі з архіва Дар'і Бунеевай.***

# Малюем Лесуна

Першай справай шукаем апісанне знешнасці. Самы просты спосаб — зазірнуць у глабальную сетку. Вікіпедыя выдае нам Лесуна як духа лясных гушчароў. Абсяг дзейнасці — ад узлеску да ўзлеску. Недзе ў глыбіні гэтай тэрыторыі знаходзіцца яго дом. Праўда, сам Лясун дома не сядзіць — шмат вандруе, таму адпачывае і начуе ў выпадковых мясцінах: на вершалінах дрэў і ў дуплах, пад ламаччам і бураломам, у лагчынах і прадоннях. Хаця Лясун здатны на хітрыкі і лёгка пертвараецца ў што заўгодна і каго заўгодна. Найчасцей жа паўстае ў вобразе старога з белым, як воск, не загарэлым тварам, вялізнымі цьмянымі вачыма «свінцова-сіняга колеру», якія «ніколі не закрываюцца». Лясун, як і ўсе нячысцікі, востраголовы. І мае блакітную кроў. І не мае ценю. І не пакідае слядоў. Лясун здольны пераймаць галасы жыхароў свайго краю — аднолькава паспяхова выдасць і мядзведжы рык, і камарыны піск.

Што мы можам узяць з апісання? Перш за ўсё тое, што Лясун мае збольшага чалавечае аблічча — выглядае як дзядок. Пастава дзядка можа быць як мажнай і каржакаватай, так і хударлявай. Мы спалучым худое цела з вялікім жыватом. Гэта патрэбна для таго, каб персанаж займеў характар і запамінальнасць. ***Кантраст — прыём, які дапамагае рабіць вобраз выразным і казачным.***

Малюем умоўную лінію пазваночніка Лесуна — яна дапаможа акрэсліць позу і паварот цела. Адразу для маштабу малюем густыя дрэвы ў рост дзеда. Такім чынам мы паказваем, што Лясун — ве-е-ельмі вялікі.

Удакладняем рысы твару старога чалавека. Малюем нос-бульбінку, вялікія цёмныя вочы, доўгую бараду. На канечнасцях абазначаем суставы. Прамалёўваем кісці рук і ступні (іх наўмысна можна зрабіць вялікімі — гэта падкрэсліць казачнаць). Чэрап малюем выцягнутым і завостраным. Дадаём фантастычнасці, «выцягваючы» вушы.

Апранаем Лесуна. У што? У народныя адзенне! Ён жа гаспадар беларускага лесу! Тут варта пацікавіцца, з чаго складаўся беларускі сялянскі касцюм.



1



2



3



Возьмем самы просты варыянт — світу і нагавіцы. Світу «падпяразваем».

Удакладняем пейзаж: «кладзём» на зямлю апалыя лісточкі і галінкі. Пад дрэвамі «садзім» грыбы.

Затрымаемся на дэталях. Іх прапрацоўка зробіць ілюстрацыю матэрыяльнай, цікавай для разглядання. Наша мэта — паказаць, што адна структура не падобная да другой. Паверхня зямлі адрозніваецца ад ствалоў дрэў, так жа? І зблытаныя валасы адрозніваюцца ад тканіны. Таму мы графічна выявім якасці гэтых паверхняў. Тканіна будзе грубай і абтрапанай, барада — мяккай, падол світы і ніз нагавіцаў — рванымі.

Галінкі ялін таксама прамалёўваем, але не ўсе, а толькі бліжэйшыя да нас. Гэтага будзе дасткова.

Апошні этап — самы прыемны. Размалюем Лесуна. Калі хочаш зрабіць яго таямнічым, містычным — паспрабуй выкарыстаць халодную насычаную гаму. А калі настрой на яго добразычлівы і казачны, тады выкарыстай цёплую гаму. Адыдзі ад стэрэатыпаў «зялёная трава» і «сіняе неба» — выкарыстоўвай адценні! Апалае лісце і мох маюць надзвычай багатую колеравую гаму. Вячэрняе неба распараджаецца тысячай гарачых адценняў. Ствалы дрэў могуць быць шэра-блакітнымі, а яловыя лапкі — цёмна-сінімі. Галоўнае — шукай удалыя колеравыя спалучэнні. І ніхто табе не кажа, што колер скуры Лесуна павінен быць такім, як у чалавека.

Прыдумваючы фантастычных персанажаў або ўвасабляючы іх, карысна знаходзіць крыніцы натхнення. Гэта могуць быць ілюстрацыі, анімацыя, камп'ютарныя гульні. Звяртай увагу на персанажаў. Мастакі выкарыстоўваюць нечаканыя прыемы — спалучаюць часткі целаў розных жывёл, колер скуры мяняюць на «адваротны», наўмысна малююць вушы, вочы, насы занадта вялікімі або наадварот — занадта маленькімі. Гэтыя прыёмы ў тваім арсенале дапамогуць табе літаральна «ажыўляць» тваіх персанажаў, рабіць іх характарнымі і эмацыйнымі.

***Алеся Галота***

# «Царэўна-лебедзь» Міхаіла Урубеля

*Тут она, взмахнув крылами,*
*Полетела над волнами…*
***А.С.Пушкін***
***«Казка пра цара Салтана»***

З палатна на нас трывожна глядзяць крышталёва-сінія вочы. У іх і маўклівы заклік, і годнасць царэўны, сілуэт якой быццам вось-вось вызваліцца з беласнежнага ззяння лебядзінага апярэння і абернецца дзяўчынай, і прыгажосць і непадуладнасць яе запоўняць сабою ўвесь бяскрайні марскі пейзаж, скіраваны ў далячынь. Гэта, несумненна, яна, «Царэўна-лебедзь» Міхаіла Урубеля — мастака, які выступае асобна ад рускай інтэлігенцыі канца XIX стагоддзя.

Паглядзіце на яе: гэта не мастацкае пераасэнсаванне пушкінскай казкі, але пеpажыты, недзе недавыказаны аўтарскі погляд унутр сябе. Знутры ён выцягвае вобразы незвычайнай паэтычнасці і трагічныя адначасова. Раствораным у ночы святлом іграюць на крылах рэфлексы*, блікі дрыжаць, калышуцца, адыходзяць у небыццё марскіх глыбіняў, адкрываючы сілуэт неверагоднай прыгажосці.

Яе галаўны ўбор пакрывае россып каштоўных камянёў, бляск ад іх пераклікаецца са ззяннем пярсцёнкаў на тонкіх пальцах. Кволая і адасобленая, яна мае ў сваім вобразе нешта большае, чым прыналежнасць да шэрагу гераінь рускіх казак. Мастак адлюстраваў яе непадобнай на казачны персанаж — занадта адухоўленым заклікам поўніцца пагляд. Што хаваецца ў ім? Ці не імкнецца мастак надзяліць Царэўну асабістай трывогай, незразумеласцю, надламанай душэўнай арганізацыяй?.. Гэту загадку яшчэ трэба разгадаць. А мо некаторыя таямніцы варта пакідаць неразгаданымі, адданымі пад апякунства такіх мастацкіх «стражаў», як цудоўная «Царэўна-лебедзь»? Яна ў гледача хоча прасіць дапамогі, заступніцтва. Паводле сюжэта казкі яе, зачараваную, ратуе высакародны князь. Толькі адчуваеш у паглядзе немінучую асуджанасць — і ўжо не казачным выглядае атачэнне, фон, але ўяўляецца арэнай чалавечых пакут, безнадзейнасці. Можа быць, сам мастак глядзіць з палатна вачыма адчаю і болю — за разбураную надзею і чакае — разумення, прыняцця творчасці як часткі рускай культуры. Вось такой неаднaзначнай, шматскладнай і недасягальна цудоўнай.

«Царэўна-лебедзь» Міхаіла Урубеля — як апошні сфінкс эпохі, што адышла, развітальнае ззянне ідэалаў, вобразы якіх будуць прыцягваць бясконца.

***Ксенія Куніца***

---

** Тэрмін «рэфлекс» у мастацтве азначае эфект адлюстравання, які з’яўляецца тады, калі на прадмет або яго частку падае святло (абітак святла) ад аб’ектаў, што яго акружаюць.*

# Сродкі мастацкай выразнасці



***Колер***

Палітра будуецца на танюткай градацыі адценняў сіняга, блакітнага і шэра-зялёнага, за кошт чаго ствараецца ілюзія глыбіні прасторы, яе працягласці і казачнай нерэальнасці.

***Святлацені***

Аб'ёмнасць фігуры гераіні дасягнута выкарыстаннем у розных месцах святлаценевай мадэліроўкі формы, рэфлексы ў месцах ценяў быццам падрыхтоўваюць «усплёскі» блікаў на казачным апярэнні.

# Сталоўка на дзюбцы алоўка

*Рэпартаж-расследаванне*

***Школьны дзень у нас падзяляецца на «да» (паходу ў сталоўку) і «пасля». Мы бяжым на прыемныя пахі, нагадваючы статак сланоў. І тут ужо няма розніцы ў якім хто класе вучыцца — першым, шостым ці адзінаццатым. Назад жа вяртаемся як мага павольней…***
***А як ставяцца да школьнай сталоўкі настаўнікі? Пра гэта я і паспрабавала даведацца.***

Густы ў кожнага свае, таму і адказы настаўнікаў не былі аднолькавымі. Праслухаўшы шмат меркаванняў, магу сказаць, што топ-3 школьных страў, любімых настаўнікамі, склалі аладкі, курыца і амлет.

Настаўнікаў можа зразумець.

Наогул, стравы, якія гатуюцца ў нашай гімназіі, вельмі простыя. Курыцу амаль заўсёды падаюць з гарнірам з рысу ці бульбы. Асабліва смачна, як на густ настаўнікаў, калі гэты набор паліваецца соусам. Калі ў повара добры настрой або ў школьнай кухні ўсталёўваецца незвычайная атмасфера, курачка сапраўды атрымліваецца. Пальчыкі абліжаш!

Самая любімая страва настаўнікаў (і не толькі іх!) — аладкі. У «аладкавыя» дні на абед запісваюцца ўсе без выключэння, бо пах з боку сталоўкі ну проста неверагодны! Аладкі звычайна падаюць з павідлам або смятанай.

Частка настаўнікаў аддае перавагу амлету. Па іх меркаванні, у хатніх умовах такі прыгатаваць цяжка. Тут, у гімназічнай сталоўцы ён атрымліваецца пышнейшы. Адна настаўніца, вельмі мною любімая (спадзяюся, што яна гэта чытае), на маё пытанне пра любімую страву школьнай сталоўкі адказала вельмі цікава: «Усё добра, што я не сама гатавала. Бо вы (то бок, мы, вучні. — *Заўвага аўтара*) так за дзень стоміце, што дома ўжо нічога не хочацца гатаваць». За ўсіх вучняў я прашу прабачэння ў тых настаўнікаў, якім мы сапсавалі апетыт.

Самым вялікім мінусам нашай сталоўкі была прызнана аднастайнасць. Калі ў сераду рыба, то, як мне здаецца, рыбу і праз сто гадоў будуць даваць менавіта па серадах, і не факт, што не такую самую.

Наконт пажаданняў для меню: экстравагантных варыянтаў не прапаноўвалася. Многія жадаюць бачыць першай стравай суп, які ў нас не падаецца. Некаторыя прапанавалі дранікі з мясам. Ну, ці хаця б без мяса, звычайныя дранікі. Куды ж беларусам без нацыянальнай кухні? Вучні, якія стаялі побач з настаўнікамі ў тую хвіліну, гучна іх падтрымалі: «Вось дык справа! Мы таксама хочам». Таму, мяркую, у гімназіі імя Кастуся Каліноўскага наспявае паўстанне…

У нашай школе ёсць цікавая традыцыя, якая неверагодна падабаецца не толькі настаўнікам, але і вучням, — кожны год ладзіць мерапрыемства пад назвай Potluckparty. Гэта вечарынка ў англійскім стылі, на якую кожны павінен прынесці сваю страву. Мерапрыемства праходзіць у цёплай школьна-сямейнай атмасферы: мы спяваем песні, расказваем вершы на англійскай мове, танцуем, каштуем шмат розных смачнасцяў, абменьваемся рэцэптамі. Пазітыўны настрой захоўваецца пасля як мінімум некалькі тydняў.

Мабыць, не так і важна, што есці, куды больш важна тое, з кім і пры якіх умовах гэта рабіць. А каб нашы настаўнікі ў любы дзень тыдня мелі добры настрой і ставілі лепшыя адзнакі, мы будзем імкнуцца менш іх нерваваць.

Смачна вам есці, сябры, і не забудзьцеся пажадаць таго ж сваім настаўнікам!




Подпіс рэдактара

***Ганна Варонка,***
***11 клас, гімназія № 1,***
***Свіслач (Гродзенская вобласць)***

# Маленькі зімовы цуд

***Ці было такое з вамі: трапляеш у чужую краіну — і адчуваеш сябе як дома? Летась я закахалася. Гэта самая сапраўдная рамантычная гісторыя, але рамантычныя стасункі ў мяне складіся з горадам. Так бывае: я закахалася ў горад. У Прагу. Паважаныя чытачы, я жадаю ўсім вам хоць раз пабываць у гэтым казачным месцы, а калі там яшчэ будзе ісці снег… Можна будзе смела сказаць: «Пабачыць Прагу і памерці». Але ж я збіраюся распавесці вам пра каханне.***

Мая гісторыя пачалася са снегу (папраўдзе, яна пачыналася крыху раней, але галоўную ролю адыграў снег). Яшчэ ў кастрычніку ў нашай школе пайшла гаворка пра паездку ў Чэхію, але спачатку я ад яе адмовілася. Месяцы да паездкі цягнуліся павольна. У канцы лістапада мая цётачка ўжо настойвала на тым, каб я ўсё ж паехала. Жадання ў мяне самой не было ніякага, тым больш што зімовага надвор'я не прадбачылася, ды і з ліку маіх аднакласнікаў ехаць ніхто не збіраўся. Больш за тое, у склад групы ўваходзіла многа настаўнікаў. Уяўляеце, якая весялосць мяне чакала? Спадзяюся, вы зразумееце мой настрой напачатку паездкі.

Я і не заўважыла, як уселася ў аўтобус. Зручна ўладкавалася. Зірнула ў акно — пачынаўся снегапад. Не ўсё так дрэнна! Магчыма, я недарэмна пагадзілася на гэтую паездку? Зіма. Снег. Каляды. Чаму б не адбыцца якому-небудзь цуду?

Сусудка па аўтобусе сядзець са мною не хацела — і я па-панску размясцілася на падвоеным сядзенні. Ну і што, што адна… Затое з камфортам!



Калі мы прыехалі ў Прагу, для нас правялі невялікую экскурсію, падчас якой я паспела змерзнуць — і не заўважыць гэтага. Прага спадабалася. Адразу. Але захаплення не выклікала. Увечары я разам з сваёй цётачкай-настаўніцай, яе сяброўкай, таксама настаўніцай, і яе дачкой, якая была (вы ўжо мо здагадаліся) таксама настаўніцай, выбраліся палюбавацца вечаровай Прагай.

Тут і пачалося чараўніцтва! Запалілі на вуліцах ліхтары — і я зразумела, што са мной адбываецца нешта не вельмі звычайнае. Я адчула сябе шчаслівай! Шчаслівай у гэты момант, шчаслівай без аніякіх умоў, папросту шча-слі-вай. Я раптам зразумела, што побач са мною — цікавыя людзі, якія цалкам падзяляюць маё раптоўнае захапленне. Захацелася тэрмінова дакрануцца да цуду. Пакаштаваць яго на смак. Кружыцца ў танцы сняжынак пад казачным святлом ліхтароў. Выглядваць са старадаўніх стральчатых вокнаў. Скатвацца — раз і яшчэ раз — з прыбранай саламянымі карункамі і штучнымі яблыкамі ледзяной гары…

Але гэта было яшчэ не каханне. Каханне прыйшло да мяне назаўтра, калі снег накрыў усё вакол покрывам, якое зіхацела ў сонечных промнях.

На жаль, з майго акна заснежаных вуліц відаць не было, я ўбачыла іх толькі апоўдні, калі мы пайшлі на экскурсію па гістарычным цэнтры горада. Ярка свяціла сонца, а для мяне ўсё плыло ў магічнай смузе, я адмовілася прымаць усё бачанае за рэальнае.

Хацелася плакаць і віскатаць ад радасці! Туліцца шчакой да пацямнелых цагляных сцен, лашчыць цмяныя бронзавыя фігуры на цудоўным мосце і загадваць запаветныя жаданні. Згубіцца ў гулкім лібірынце сабора Святога Віта…

Блукаючы па заснежаных вуліцах Прагі, я зразумела, што закахалася. Напэўна, я ў тыя дні хадзіла з недарэчнай усмешкай на твары, бо хацела расцалаваць усіх навокал. Бо знайшла каханне! І свой маленькі зімовы цуд.

У маім сэрцы цяпер жыве яшчэ адзін любімы горад. Шчасце з'явілася само па сабе, я не валодала сваімі пачуццямі. Цяпер, калі мне бывае сумна, я гартаю альбом з фотаздымкамі, прывезенымі з Прагі, — і зноў усміхаюся.




Подпіс рэдактара

_______________

***Ліза Сяцко,***
***11 клас, СШ № 12, Гродна***

# Van Canto у Мінску: ідэальны канцэрт

***Яны граюць (а дакладней, спяваюць) музыку ў стылі «акапэла метал», часам не выкарыстоўваючы ніводнага інструмента акрамя барабаннай устаноўкі. Прывёўшы свет у шок сваімі напевамі гітары і клавішаў, Van Canto заехалі і ў наш утульны куток.***

Людзей на танцпляцоўцы было няшмат, і гэта абвастрала становішча. Здавалася, з-за гэтага будзе занадта спакойна і няўтульна. Але я нядоўга хвалявалася — на сцэну ў ролі «разагрэву» выйшаў беларускі сімфонік-метал гурт Klodna, які сапраўды «разагрэў» залу.

Хай і не адразу, але людзі, якія прыйшлі на канцэрт, развесяліліся, і маю збянтэжанасць як рукой зняло. Выдатным каверам на вядомую Highway to Hell гурт Klodna прымусіў слухачоў падпяваць. Патрэбны тон быў зададзены, у клубе з'явілася атмасфера рок-н-рола. І ў самы патрэбны момант, калі гледачы набраліся ўжо энергіі і былі гатовыя сустрэць куміраў, Van Canto з'явіліся на сцэне — пад аглушальныя крыкі.

Больш артыстычных і таварыскіх музыкаў я не сустракала ніколі. Фронтмэн, галоўны вакаліст Дэніс Шунке, незаўважна знікаючы, раптоўна з'яўляўся то ў адным канцы сцэны, то ў іншым, паспяваючы падыграць усім членам групы і кінуць сотні абаяльных поглядаў фанатам. Я злавіла адзін такі: мы адзін аднаму падміргнулі. Рос Томпсан (высокі «рытм-гітара» вакал) і Штэфан Шміт (нізкі «сола-гітара» вакал) увялі гледачоў у ступар, калі ўласнымі галасамі, спаборнічаючы, дакладна паўтарылі гукі электрагітары.

Апошні альбом Van Canto пад назвай Dawn of the Brave выйшаў у лютым 2014-га, больш новых песень гурт не прадставіў. Калектыў выконваў старыя хіты — If I die in battle, One to ten, Badaboom і вядомыя каверы на Nightwish (Wishmaster), Metallica (Master of puppets), Blind Guardian (Bard's Song).

Пасля канцэрта я засталася сядзець у зале — ад скачкоў і танцаў у мяне балелі ногі і спіна. Прысеўшы, я мела толькі невялікую надзею на з'яўленне гурта, і, як іншыя, была моцна здзіўленая, калі з'явіўся такі ўтульны і лагодны Рос Томпсан. Ён абдымаў кожнага, усім падарыў па пары слоў і аўтографы. Шчаслівая, я ўжо не адчувала стомы і вышуквала поглядам астатніх членаў гурта. Сфатаграфавалася, атрымаўшы аўтографы, і з Дэнісам Шунке, і з Інгай Шарф, і з Штэфанам Шмітам. Не прайшла міма Бастыяна Эміга (бубнача), які таксама пакінуў аўтограф. Усё гэта было маёй марай, і кожны раз, успамінаючы, як гутарыла з імі, я ўсміхаюся.

Больш за ўсё смешыць успамін пра тое, як перадражніваў мой пісклявы голас Рос Томпсан.




Подпіс рэдактара

***Марыя Дзербічава,***
***10 клас, СШ № 207, Мінск***

## ПЕРШЫ СНЕГ



1

Абляцела гая
Жоўтая спадніца…
Толькі вецер грае
На пустых галінках.
Шэпчуць сіверы-вятры
Елачкам ціхутка:
— Снег пакрочыць па зямлі
Хутка, вельмі хутка…

2

Гарэза-ветрык абарваў
З бяроз апошнія лісты,
Сівы мароз пабудаваў
Са шкла над рэчкаю масты.

Прыбраўся голы лес у шэрань,
А дзяцел тэлеграмы б’е:
«Казалі мне, што ў хмарах шэрых
Бліскучы белы снег жыве!»



Усе вакол зіму чакаюць,
Чакаюць снег замест дажджу.
І вось, глядзі: з нябёс злятае
Маленькі белы парашут!

Ляціць!
Шапоча снежнай мовай:
— Сняжынка я! Я — першы снег!
За ёй ляціць мільён сяброўак…
Які ж узняўся гоман, смех.

Усе чакалі нездарма:
Нарэшце надышла зіма!

***Серафім Раула,***
***6 клас, гімназія-каледж мастацтваў, Мінск***
***Малюнкі аўтара***

## СУМУЮ Я…

Сумую я па роднай мове,
Бо ўсюды руская чуваць,
А словы «дзякуй», «калі ласка»,
Не вельмі хочуць ужываць.
Не пажадаюць: «Смачна есці!»
«Дабранач! Соладка вам спаць!»

Не скажуць сябру: «Прывітанне!
За крыўду, дружа, выбачай!»
Не прагучыць на развітанне
Ласкава-сумнае «Бывай!»…

Мне хочацца, каб беларусы
Не адракаліся ад слоў
Сваіх, прыгожых, адмысловых,
Не бралі словы з іншых моў.

Шануйце нашу мову, дзеці,
Бо лепшая яна на свеце!

*Паліна Карташова,*
*10 клас, Заслаўская гімназія*

## УШАЧЧЫНЕ

Мая ты любая Ушаччына,
Мне даражэй цябе няма.
Ты змалку песціш песняй матчынай,
А ўвесну — песняй салаўя.
Ішлі стагоддзі, дні змяняліся,
Шмат бед прыйшлося перажыць…
Дзяды і прадзеды змагаліся,
Каб ты магла свабоднай быць!
Каб мы з бядой не сустракаліся
На нашай роднае зямлі,
Каб мы прыродай любаваліся
І родны край свой берaглі!

*Злата Клачок,*
*7 клас, Ушацкая СШ*

*Мікрахвалевую печ вынайшлі выпадкова. Персі Спенсер працаваў у кампаніі, якая даследавала звышвысокачастотныя выпраменьванні для радараў. Аднойчы ён выпадкова трапіў пад дзеянне выпраменьвання — і са здзіўленнем выявіў, што ў яго кішэні расплавілася шакаладка.*




# Сярэднестатыстычны школьнік




Хатняе заданне па беларускай мове складалася амаль з анкетычных пытанняў: які я чалавек, як я да чаго стаўлюся, як адносяцца да мяне (на маю думку), якія ўзаемаадносіны ў мяне з сям'ёй, сябрамі, настаўнікамі. Вось дык прыдумалі…

Які ж я чалавек? Ды звычайны, сярэднестатыстычны, як і ўсе.

Адказнасць, адсутнасць органа ныцця, абыякавасць да «крыўдных слоў» (што многія лічаць такімі), дабраякасная настойлівасць і псіхічная ўстойлівасць — ужо праверанныя мае якасці, якія дапамагаюць мне жыць. Магчыма, ёсць і іншыя якасці, але знойдуцца яны ў патрэбны час і ў патрэбным месцы. Ну, як і павінна быць, побач з «плюсамі» круцяцца «мінусы». Недахопаў у маім характары — вазок з прычэпам, але жыць мне гэта не замінае. Канечне, я стараюся выпраўляцца, але, як ужо пісалася, жыццё маё «мінусы» не засмучаюць, а што яшчэ трэба?

Трэба яшчэ не замінаць іншым. Я і стараюся не замінаць.

Змагацца з недахопамі? Безумоўна, з імі змагацца трэба, але ці не працей не даходзіць да ўзрушвання гэтых недахопаў падчас, скажам, гутаркі? Ну, калі ўжо прышчаміла, дык цярпі. Як мага даўжэй, каб не сарвацца, а далей — як атрымаецца. Я так змагаюся, мне хапае.

У класе і па ўсёй школе да мяне ставяцца добра. Хоць, хто ведае, што ў людзей у галовах? Ды і навошта ведаць? З добразычлівымі «абалонкамі» жыць таксама нядрэнна.

У мяне ёсць лепшыя сябры і добрыя таварышы, іншае пытанне: ці з'яўляюся я для іх такім самым?..

Насцярожана я стаўлюся да тых, каго недастаткова ведаю, бо да незнаёмых людзей няма даверу і няма ўпэўненасці ў іх (калі ўжо свае могуць здрадзіць, то пра чужых што казаць!).



Я ганарыўся, ганаруся і буду ганарыцца сваімі бацькамі, бо яны жывуць па-чалавечы, дапамагаюць іншым і ніколі не апускаюць рукі.

Што засмучае мяне ў нашай сям'і? Глупства, а не пытанне. Канечне, нічога не засмучае мяне ў нашай сям'і, бо наша сям'я — маё надзейнае прыстанішча.

Цяпер пра настаўнікаў. Я ўжо не першы год (далёка не першы) заўважаю, што мае настаўнікі — залатыя людзі. Добразычлівыя, неабыякавыя, заўсёды дапамогуць, і яшчэ шмат у іх ёсць добрых якасцей, што робяць іх сапраўднай сям'ёй для мяне па-за домам.

Караценька пра сяброўства і каханне: ёсць яно наогул? Штосьці не верыцца, што ёсць… Ды мне пакуль і не трэба.

Пра інтарэсы адкажу строга па тэме.



Роздум над старонкай кнігі: не думаю ні аб чым, галоўнае ў кнізе — дзеянне, а сэнс у кожнай (амаль) кніжцы адчуваецца адразу. У сапраўды добрай кніжцы.

Любімы занятак — фізічная праца, бо без яе нецікава.

На якія пытанні я хацеў бы атрымаць адказ перш за ўсё?

Ні на якія, бо на тыя, што мелі для мяне нейкі сэнс, я сам даўно адказаў…

Больш пра сябе нічога не магу дадаць: душу выклаў, а болей што?

***Аляксандр Радзіхоўскі,***
***10 клас, Дворнасельская СШ, Мёрскі раён***

***Мастачка Юлія Усава***

Казкі школьнага ранца

# Хлопец і Месяц



У старадаўнія часы людзі жылі ў невялікіх паселішчах сярод дрымучых лясоў. Яны верылі ў мноства багоў і прыносілі ім шматлікія ахвяры. Аб адным з такіх старажытных паселішчаў, якое было размешчана непадалёку ад берага мора, і пойдзе наша гаворка.

У паселішчы жылі хоць і працавітыя, але вельмі цёмныя людзі. Днём яны працавалі, не пакладаючы рук, а вечарам збіраліся ля вялікага вогнішча, каб задобрыць таго ці іншага са шматлікіх сваіх багоў. Асабліва яны шанавалі нябесны Месяц. Нават не столькі шанавалі, колькі баяліся. У поўню шчыльна зачынялі дзверы і вокны, каб сярэбранае святло не трапіла ў хаты. Так працягвалася з веку ў век…

Але знайшоўся адзін смяльчак, хоць і быў ён простым хлопцам. Хлопец гэты змалку любіў назіраць за прыгажосцю прыроды, хадзіў у лес слухаць спевы птушак, часта сядзеў на самым марскім узбярэжжы, і слухаў вечны шэпт блакітных марскіх хваляў. Яшчэ ён глядзеў на зоркі і шукаў у іх ззянні тое, чаго ніхто іншы не мог адшукаць, назіраў за ўсходам сонца і ў думках сваіх шчыра вітаў ягоныя ласкавыя промні.

Аднойчы, яшчэ маленькім хлапчуком, ён неяк выпадкова ўбачыў поўны Месяц — вялікі, прыгожы, сярэбрана-белы. І пасля гэтага кожны раз, калі вузкі серп ператвараўся ў вялікі белы дыск, хлопец таемна бегаў назіраць за ім з высокага берага мора. І кожны раз Месяц шаптаў яму свае зорныя казкі, а хлопец расказваў свайму нябеснаму сябру пра зямное жыццё… Такім чынам яны моцна пасябравалі.

Але аднойчы хлопец закахаўся. Дзяўчына была такой прыгожай, што хлопец зусім забыўся на лес, мора, сонца і зоркі. Толькі Месяц па-ранейшаму заставаўся ягоным лепшым сябрам.

Праз нейкі час хлопец вырашыў прасіць у сваёй каханай рукі і сэрца. Але перад гэтым вырашыў пазнаёміць яе з сябрам — поўным Месяцам.

Але дзяўчына, пачуўшы такое, жахнулася. Яна наадрэз адмовілася ісці з хлопцам на бераг мора ноччу, у поўню. Больш за тое, яна адмовіла яму і ў каханні.

І хлопец з гора назаўсёды пакінуў роднае паселішча. А перад сыходам сказаў дзяўчыне:

— Калі будзеш шукаць мяне, запытайся ў Месяца.

Больш ніхто не бачыў таго хлопца.

А дзяўчына тая зразумела раптам, што кахала толькі яго і ніхто ёй больш не патрэбны. У роспачы дачакалася яна поўні і выбегла ноччу на высокі бераг мора. На каленях пачала прасіць Месяц дапамагчы ёй знайсці і вярнуць каханага.

А Месяц адказаў так:

— Ён пайшоў далей. Ён пайшоў туды, куды ніхто з вас яшчэ не даходзіў…

***Елізавета Карчэня***
***9 клас, гімназія № 10, Мінск***

# Хрысціянскія святы

Жылі-былі чатыры сястрыцы — Поры года. Ды былі чатыры галоўныя святы: Каляды, Вялікдзень, Тройца і Пакровы. Цэлы год сёстры спрачаліся, каму з якім святам сябраваць.

І вось аднойчы вырышылі сёстры падзяліць святы паміж сабой. Тройцу і Пакровы Зіма пажадала, але і Вясна ад іх не адмаўлялася. А Восень і Лета не маглі падзяліць паміж сабой Вялікдзень і Каляды.

Паклікалі яны на дапамогу бацьку — Календара. А ён і кажа дачушкам:

— Дзетачкі мае, давайце будзем святкаваць Каляды ўзімку, таму што Зіма старэйшая і разумнейшая за вас. Вялікдзень аддадзім Вясне — самай працаздольнай і мужнай. Тройцу будзем адзначаць улетку, таму што тры месяцы — чэрвень, ліпень і жнівень — прыносяць нам усё добрае, як Бог-Айцец, Божы Сын і Святы Дух. Пакровы падорым Восені, бо гэтай парой усе рыхтуюцца да маразоў, а Пакровы дапамогуць укрыць зямлю.

Згадзіліся дочкі з бацькам і сталі жыць у згодзе кожная са сваім вялікім святам.

***Ігнат Мельнічэнка,***
***14 гадоў, гімназія № 75, Мінск***



***Надзея Кароль***

# Казка пра Хмарку

Праз ноч імчыцца ў небе Хмарка,
То Вецер гоніць яе шпарка
На поўнач, дзе снягі і сцюжы.
Баіцца Хмарка — вецер дужы,
Змагацца з ім даволі цяжка.
— Спыніся, Вецер, калі ласка!
Я адпачну хаця б хвіліну! —
Прасіла Хмарачка Вятрыну.
І Вецер стомлены спыніўся,
Ён жа таксама прытаміўся.
Усё наўкол паспакайнела,
Ды Хмарка хітрая паспела
За дах ціхенечка ўчапіцца
І на гарышчы затаіцца.
Палонніцу шукае Вецер,
Дарма шукае, знікла недзе…
І Вецер злы хістае кроны,



Дзьме на лісточкі падазрона,
Глядзіць: а ўжо Заранка ў небе,
І кажа: «Супакойся, Вецер!
Ды хопіць тут на ўсіх злавацца —
Дахаты час прыйшоў збірацца».
Згадзіўся Вецер сумны, змрочны,
І паімчаўся ў край паўночны.
Заранка ж Раніцу вітае,
З-за лесу Сонца выглядае,
Стракочуць конікі ў пракосах,
Спяваюць птушкі шматгалоса.
Вітацца з Сонцам Хмарка прагне,
Бо подых волі надта пахне.
Хацела вылезці з гарышча,
Ды нештачкі ў яе не выйшла,
Ні шчылінкі знайсці не можа:
«Як я пралезла сюды, Божа?!»
І вось тады яна патроху
Спаўзла праз сенцы на падлогу.
Куды не ступіць — стане мокра.
(Яна ж з вады — вядома добра!)
Ціхутка дзверы адчыняе,
На ганак хуценька трапляе,
А там сабака спаў пужлівы,
Ды ад пужлівасці звяглівы.
Ён грук пачуў, ды як забрэша,
Нібыта нехта яго рэжа.
Ад жаху Хмара задрыжэла,
Зноў дождж паліўся з яе цела.
Танюткай стала, бы асіна,
З дажджом прапала яе сіла.
Не мае моцы ўзняцца ў неба,
Ёй дапамога надта трэба…
А ў гэты час ад таго брэху
У хату даляцела рэха.
Малыя ўсталі ды пабеглі,
А ў сенцах зноўку ўсе палеглі,
Бо на падлозе паслізнуліся —
На мяккім месцы апынуліся…
— Хто сёння з ранку мыў падлогу?!
Няхай ідзе на дапамогу! —
Крычалі дзеці са слязамі.
— Бо мы ж не мылі яе самі!
Бацькі прыбеглі ў задуменні,
Глядзяць на дзетачак з сумненнем:
Што тут малыя выдумляюць,
Навошта так бацькоў пужаюць?
Адкуль жа лужына такая?
— Мо дах у сенцах працякае? —

***«Маё жыццё праходзіць далёка ад Радзімы, — напісала ў сваім лісце ў рэдакцыю Надзея Кароль, — бо муж працуе беларускім дыпламатам». І ўсё ж, нягледзячы на гэта (а можа, якраз з гэтай прычыны), яна пачала ствараць для свайго маленькага сына вершыкі на беларускай мове. Адзін з іх нечакана ператварыўся ў казку, і «Бярозка» прапануе гэтую казку сваім чытачам.***

Заводзіць бацька тут гаворку. —
Пайду агледжу дах знадворку!
Ступіў ён крок і схамянуўся,
На Хмарку раптам натыкнуўся.
Спыніўся і ў яе пытае:
— Прабач, хто будзеш ты такая?
— Я — Хмарка, гэта значыць — хмара,
На неба ўзняцца зноў я мару,
Ды без вады я хутка згіну
Ратуйце Хмарку-сіраціну!»
— Гэй, дзеці, мы не маем часу!
На дапамогу ўсе адразу!
Змясціць у бочку трэба Хмарку
І да ракі даставіць шпарка!
За бочкай я схаджу ў паветку,
А вы тым часам на разведку,
Сачыце, каб ніхто не ўбачыў,
Ніхто на рэчцы не рыбачыў!
Іначай будзе не да смеху,
Як скажуць: «Бацька з глузду з'ехаў!»
Бо не паверыць просты люд,
Што на зямлі бывае цуд!
Вось бочка, вось і дапамога —
За шчасце, калі дзетак многа!
Кагалам бочку пакацілі,
А пад гару саму пусцілі.
І вось, нарэшце, Хмарка ў рэчцы,
Яна шчаслівая, смяецца.
Вады халоднай напілася,
У неба хуценька ўзнялася.
Пытае: «Дзе тут вашы градкі?
Заместа ранішняй зарадкі
Хачу паліць ваш сад ды поле,
Толькі смяшыце мяне болей…»
— Вось гэта шчасце нашай хаце! —
Усклікнула шчаслівая маці. —
Каб дождж пайшоў — малілі неба,
А тут яго смяшыць нам трэба!
А бацька хітранька ўсміхнуўся,
На Хмарку ў небе азірнуўся.
— Ну што ж, тады хадзем дахаты,
Мы ўсе за Хмарку вельмі рады!
Няхай гуляе на свабодзе,
Ды памагае ў агародзе!

***Мастачка Юлія Усава***



***Ці хавае страус галаву ў пясок? Амаль 80 гадоў даследчыкі праводзілі назіранні за страусамі і ніводная з 200 тысяч птушак гэтага не зрабіла. Адкуль узялася легенда — невядома.***

***Расціслаў Бензярук***

*Два апавяданні*



# Ліст з планеты Ачад

Сямікласнік Генка Дамагаеў нечакана атрымаў пісьмо. Калі дастаў канверт з паштовай скрынкі, пазнаў почырк суседа па парце Паўліка Салавейчыка. Толькі там, дзе павінен стаяць зваротны адрас, стаялі тры не зразумелыя хлопчыку словы: «З планеты Ачад».

«Нешта я не памятаю такой планеты, — падумаў Генка. Ён захапляўся геаграфіяй ды астраноміяй і пачаў разважаць: — У Афрыцы ёсць дзяржава Чад, а ў Ізраілі — горад Ашдод. Толькі гэта ўсё не тое — тут цэлая планета! Дык дзе ж яна?..»

Генка пакорпаўся ў сваёй памяці і… не знайшоў. Каб болей не сіліцца ўспамінаць, хлопчык разарваў канверт. Ліст, і праўда, быў ад Паўліка. Той пісаў:

*«Добры дзень, зямлянін Генадзь Дамагаеў! Піша касманаўт Павел Салавейчык з не вядомай для цябе планеты Ачад. Я і сам, прызнаюся, не ведаў пра яе існаванне і трапіў сюды выпадкова. Як касмічны «заяц». Ды аб усім па парадку…*

*Учора раненька, калі ты яшчэ дрыхнуў, я прачнуўся і выйшаў прагуляцца на пустку, што адразу за нашым домам. А там, гляджу, ракета стаіць, нацэленая ў неба, і ля яе людзі корпаюцца. Думаю, у іх нешта сапсавалася і яны тут рамантуюць.*

*Зямлянін Дамагаеў, ты ж чуў пра таго амерыканца, які за дваццаць мільёнаў долараў зрабіўся касмічным вандроўнікам? Такіх грошай, нават дваццаці тысяч рублёў, у мяне ў кішэні, вядома, не было. Таму я непрыкметна, каб ніхто не заўважыў, ціха забраўся ў ракету і пачаў разглядваць усё.*

*Я быў якраз у тэхнічным адсеку, як ракета завялася і памчала ўгору. Ох і грукату нарабіла! А ты, мусіць, і гэта праспаў. Спачатку я добра спужаўся: думаю, зойдзе хто-небудзь, знойдзе мяне, скіне ўніз — і я разаб'юся аб зямлю. Час ішоў, а ніхто не заходзіў, і я крыху супакоіўся…*

*Спытаеш, як я сябе пачуваў у бязважкай прасторы? Дрэнь, скажу табе, гэтая бязважкасць: нешта быццам ціснe з усіх бакоў на цябе, а сам адчуваеш сябе камаром у бязмежжы!*

*Колькі ляцелі, не ведаю. Потым чую, ракета нібы аб грунт стукнулася і маторы пачалі глохнуць. Значыць, прызямліліся. Так падумаў я, бо яшчэ не ведаў, што мы прыляцелі на планету Ачад, а значыць, прыачадзіліся!*

*Сталі ачадцы з ракеты выбірацца, і я выйшаў. «А ты адкуль?» — пытаюцца. «З ракеты», — адказваю. «А як там аказаўся?» — «Забраўся паглядзець!» — «Дык ты што, з планеты Зямля?» — пытаюцца. «Адтуль…» Думаў, зазлуюць, павядуць у турму, а яны ўсміхаюцца: «Ладна, жыві, пакуль засумуеш, а там дамоў адправім!» Вось і жыву…*

*Падышлі юныя ачадцы і паклікалі: «Пайшлі гуляць у лобтуф!» Спачатку падумаў: у лапту, а то, аказваецца па-іхняму, у футбол. Толькі той, хто злоўчыцца, падскочыць і лбом мяч у вароты загоніць, атрымае найвялікшую пахвалу. Можа, таму лобтуф? Дарэчы, тут усё перакручана-пераверчана, не так, як у нас!..*

*А вечарам хадзілі на цёркас. Не ведаеш, што такое? Тое самае, што ў нас быў піянерскі касцёр, толькі па-ачадску. Я, праўда, спачатку падумаў, што слова ўтворана ад «церці» альбо «цёрка», бо ні ў каго не знайшлося запалак.*

*Так бы і не запалілі цёркас, ды сярод ачадцаў ёсць разумныя людзі. Адзін такі разумнік пачаў хутка-хутка церці два нейкія прадметы, так што пасыпаліся іскры на падстаўленую сухую траву — і яна загарэлася.*

*О, іх цёркасы цікавейшыя, чым нашы кастры! Якія толькі байкі тут не пачуеш! Яны, аказваецца, болей ведаюць пра нас, чым мы пра іх. Яны лічаць зямлян неахайнымі, бо мы забруджваем свае мясціны.*

*А колькі розных песень праспявалі, і вясёлых, і цягучых! Перадаць іх табе не магу, бо, сам ведаеш, мне мядзведзь лапай на вуха наступіў. Трапіўся б мне зараз той мядзведзь — адарваў бы яму лапу, каб людзям не шкодзіў…*

*Як прагарэў агонь, у прысак сталі кідаць альбуб — па-нашаму бульбу. Які смачны быў той альбуб, падпечаны, з дымком і на свежым паветры! Такога, здаецца, ніколі яшчэ не еў…*

*Ля цёркаса прабылі доўга, разыходзіліся, як пачало змяркацца. Па дарозе падумалася: «А можа, іх цёркас ад таго Цёркіна, пра якога мы нядаўна вучылі па рускай літаратуры? Цёркін — толькі па-ачадску».*

*Першы дзень прайшоў цікава. Што адбудзецца яшчэ, раскажу, як вярнуся дамоў. Званіць не трэба, бо я на планеце Ачад. Да хуткай сустрэчы.*

*Твой сябар-касманаўт Салавейчык».*

Але Генка не быў бы самім сабою, калі б не пазваніў. Спачатку Салавейчыкам — ніхто не ўзяў слухаўку; пасля — на мабільнік, але высвеціўся адказ: «Абанент часова не даступны». Ясная справа, Паўлік жа на планеце Ачад. Толькі дзе яна ў зорным небе? Трэба чакаць яго вяртання…

На трэці дзень зазваніў тэлефон. Яшчэ ніколі Генка так не чакаў званка. Хлопчык схапіў слухаўку і пачуў радасны Паўлікаў голас:

— Прывітанне зямляніну Генадзю Дамагаеву ад касманаўта Салавейчыка!

— Паша, дзе ты?

— Дома я ўжо. Давай сустрэнемся, пагаворым!

Хлопцы перайшлі пустку, дзе пачыналі будаваць новы дом, і аказаліся ў гарадскім парку ля возера-копанкі. Селі на лавачцы бліз вады.

— Паша, дык дзе ж тая планета Ачад? — не першы раз перапытаў Генка. Паўлік зноў усміхнуўся, а пасля спытаў:

— Ты памятаеш, Генка, што табе Нінэль Сяргееўна сказала, як ты ўрока не вывучыў?

— А пры чым тут нявывучаны ўрок?! Я цябе пра Ачад пытаю. У якім сузор'і яе можна адшукаць?

— Дык Нінэль Сяргееўна сказала, — не адказваючы на пытанне сябра, загаварыў Паўлік, — што твае продкі дамагаліся да ўсяго дайсці, ва ўсім разабрацца самім, таму і прозвішча ў іх Дамагаевы, а ты?.. Мой ліст ты хоць прачытаў?

— Канечне, да апошняй кропкі!

— Прачытаў і нічога не зразумеў?! — з усмешкай перапытаў Паўлік. — А там напісана чорным па белым, што ўсё на той планеце не так, як у нас, а перакручана-пераверчана. Напішы Ачад і прачытай з канца!

— Што, дача?! Дык ты на дачы быў?

— А дзе ж яшчэ? З бацькамі.

— А напісаў усялякае: пра касмічнага «зайца», пра бязважкасць, пра тэхнічны адсек, — з'яхіднічаў Генка.

— Амаль усё так і было, — апраўдваўся Паўлік. — Вёз на дачу дзядзька Сцяпан. Набралася нас столькі, што мне давялося ў багажніку ехаць. А там — і цёмна, як у тэхнічным адсеку, і цісне з усіх бакоў, як у космасе. Пакуль ехалі на дачу, і склаўся сюжэт пра планету Ачад…

— …І захацелася табе з мяне пасмяяцца? — з крыўдай у голасе перапытаў Генка.

— Зусім не, — прызнаўся Паўлік. — Пішучы табе ліст, я проста фантазіраваў.

— Багатая ж у цябе фантазія, Паша! Табе б кніжкі пісаць!

Паўлік глянуў на сябра і адказаў сур'ёзна:

— Напішу, як вырасту…

# Граша Буслёнак

Кожны з нас, хлапчукоў, меў сваю мянушку. І, як мне здавалася, часта іх прыдумваў наш Граша Буслёнак. Ён быў неяк складзены не так, як усе мы, і часта гаварыў у рыфму.

Аднойчы, калі купаліся ў рачулцы, Граша выгукнуў:

— Юрась, не лезь у гразь, бы карась!

З таго дня наш Юрасік стаў Карасём, а пасля адной гульні ў хованкі Радзік Навіцкі атрымаў нязвыклую мянушку «Выйдзі-вон». Бо Граша, якому перад пачаткам выпала казаць лічылку, калі падлік скончыўся на Радзіку, прамовіў ізноў у рыфму:

— А ты, Родзька-Радзівон, калі ласка, выйдзі вон!

Сам жа Буслёнак меў даволі-такі дзіўнае імя — Яўграф. Так звалі яго дзеда, які памёр, не дачакаўшыся ўнука. Малога ад нараджэння ўсе клікалі Грашам. Мы ж, калі былі ім не задаволены, маглі назваць Глаша-каша. Гэта хлопец прымаў за абразу і кідаўся ў бойку.

Буслёнак быў старэйшы за нас, падлеткаў, на некалькі гадоў, але вадзіўся толькі з намі. Мы, падлізваючыся, часам называлі яго Паэтам, бо верылі, што наш Граша, як вырасце, зможа пісаць такія ж вершыкі, якія мы вучылі ў школе.

Улетку прыйшло вызваленне. За некалькі дзён да таго Грашу споўнілася васямнаццаць. З верасня нас зноў чакалі школьныя парты, а Граша разам з дарослымі дзядзькамі быў у ваенкамаце.

Ваенкам прыдзірліва агледзеў высокую, але нязграбную Буслёнкаву фігуру: на ім адзежына вісела, як на калку, і неўпрыкмет, шкадуючы, пахітаў галавою. Але час быў ваенны — і паехаў Граша пад Ленінград у Лугу вучыцца артылерыйскай справе.

Казалі, што і там ён не забыў сваіх рыфмаваных штучак і адпускаў іх не задумваючыся. Так, знаёмячыся з Васілём Гірыкам, неспадзявана спытаў:

— А ты, Васіль, казе сена накасіў?

— Якой казе?

— …Што ў густой лазе.

Васіль разгублена глядзеў на навабранца, а той доўжыў:

— Гірык, а дзе свае гіры дзеў?

— Дома пакінуў! — зарагатаў Васіль, раптам зразумеўшы, што з ім жартуюць.

— Зміцёр, ты хіцёр! — казаў Граша другому. — А нам дакажы, што ад кулі збяжыш!

— І дакажу, — гарачыўся Зміцер, — на занятках!

— Хваліўся Фядот, што зубоў поўны рот. Трапіў так у абарот — і цяпер бяззубы рот! — пачуў трэці.

Усе вакол рагаталі, захапляючыся Грашавым досціпам…

Не надта давалася Буслёнку, сельскаму хлопцу, артылерыйская навука, затое пра яго нязвычныя здольнасці, мусіць, далёка пайшла слава, бо ў часць нечакана заявіўся лейтэнант, які збіраў ансамбль для выступлення перад байцамі.

Буслёнка выклікалі ў штаб палка. Як зайшоў, убачыў за сталом лейтэнанта і капітана. Усё чэсць па чэсці адказыраў старэйшаму па званні:

— Таварыш капітан, па вашым загадзе радавы Буслёнак з'явіўся!

— Добра, сядай!..

А лейтэнант доўга і сур'ёзна аглядаў даўгавязага байца, а пасля з яўным украінскім акцэнтам спытаў:

— А шчо значыть твое прозвиско, Буслёнок?

Пытанне застала Грашу знянацку, і ён адказаў не адразу:

— Гэта… гэта па-руску *аистёнок*…

— Значыць, па-нашаму *лэлэча*, — зазначыў лейтэнант. — Бо рускае *аист*, а ўкраінскае *лэлэка*…

Граша прамаўчаў, а лейтэнант прадаўжаў дапытвацца:

— А што ты пра маё прозвішча скажаш? Пырыбыйніс!

Граша адразу зразумеў, што тут гаворка ідзе пра нос, і развесяліўся. З непрыхаванай цікавасцю ён агледзеў лейтэнантаў твар, а пасля адказаў:

— Э, не трэба, таварыш лейтэнант, перабіваць вам носа! Ён і так малы. Калі б нос майго дзядзькі Кандрата раз і два адсеклі, дык ён усё роўна большы быў бы, чым ваш…

Капітан з лейтэнантам пераглянуліся і зарагаталі.

— Ну, што, бярэш?..



Лейтэнант, не адказваючы, дастаў з кішэні камертон і, стукнуўшы па краёчку стала, загадаў Грашу цягнуць ноту ля.

— Рыхтык Васілій Цёркін! — усміхнуўся лейтэнант Пырыбыйніс. — Бяру! Хоць, можа, спяваць не навучу, але канферансье будзе добры!..

— А гэта хто такі? — пацікавіўся Граша.

— Той, хто аб'яўляе песенныя нумары ды байкі расказвае…

Меней як праз месяц ансамбль выступаў на перадавой. Канферансье нізка кланяўся салдатам, што ў поўным абмундзіраванні і са зброяй сядзелі на ўзмежку, і гаварыў, пачынаючы канцэрт:

— Шаноўная публіка, слаўныя і непераможныя савецкія байцы, прыміце вітанне ад нас, артыстаў, і паслухайце, як мы спяём і станцуем для вас! Але перш прашу адгадаць, як мяне завуць…

Адразу ж пасыпаліся, бы з рога, імёны: Коля, Ваня, Міша, Сцёпа… Граша стаяў на краі самаробнай сцэны і адмоўна хітаў галавою.

— Не адгадалі! Бо завуць мяне Яўграф. І ведаеце чаму?

Сотня салдацкіх вачэй упілася ў канферансье з адзіным запытаннем: чаму?

— Бо бачыў я, як еў і піў сам граф!

З людскіх глотак вырваўся ўздых расчаравання: байцы, мабыць, чакалі іншага тлумачэння.

— А чаму ты нам гэта расказваеш?! — спытаў малады светлавалосы баец. — Можа, і ты не наш, а з графскага роду?

— Не, я ж казаў, што бачыў, як граф еў, але мяне, мужыцкага лапця, адабедаць з ім не запрасіў!

«Мужыцкі лапаць» адразу даказаў садатам, што ён вясковы, свой. Яму дружна заапладзіравалі…

Апошняе Грашава выступленне было за месяц да завяршэння вайны, ва Усходняй Прусіі. Канферансье і на гэты раз даказваў сваё сялянскае паходжанне, як невядома адкуль і кім выпушчаны ўпаў амаль пад ногі яму снарад.

Гэта было так нечакана, што ні байцы, ні сам Граша не паспелі спалохацца. Выбух… Прашыты асколкамі, ён з працяжна-доўгім: «А-а-а!» (можа, рэха падхапіла яго крык?) упаў бы падкошаны.

Калі салдаты акружылі мёртвае цела, Граша ляжаў увесь выцягнуты, з высока ўзнятай правай рукою і вельмі нагадваў бусляня, якое жадала ўзляцець. З рота струменьчыкам збягала кроў…

Пахавалі Яўграфа Буслёнка ва Усходняй Прусіі ў брацкай магіле разам з салдатамі, якія ў той дзень загінулі ў баі. А для мяне Граша застаўся адзіным і, можа, лепшым Паэтам нашага дзяцінства.

*«Мне, як старому «бярозкаўцу» (першае апавяданне часопіс надрукаваў яшчэ ўвосень 1970 года), вельмі радасна, што часопіс адрадзіўся і далей будзе верна служыць справе выхавання падлеткаў, — напісаў у сваім лісце ў рэдакцыю пісьменнік Расціслаў Бензярук. — За час існавання той «Бярозкі» ў ёй з'явіліся дзясяткі маіх апавяданняў і гумарэсак, а ў 1986 годзе — і аповесць для школьнікаў «Цвёрды арэшак». Хацелася б, каб наша сяброўства з «Бярозкай» прадоўжылася».*

***Ну вось яно і прадоўжылася, паважаны Расціслаў Мацвеевіч.***

## Новы праект. Аповесць-канструктар

### Інструкцыя




Выразай па шэрым пункціры.

***Важна!*** Для склейвання старонак, каб яны не карабаціліся, выкарыстоўвай ***гумовы*** клей.




Складвай напалам па карычневым пункціры такім чынам, каб старонка 1 (5, 9, 13) апынулася зверху.




На апошнім этапе складзеныя напалам двойчы старонкі трэба склеіць па бэжавай лініі.

***Так, месяц за месяцам дадаючы новыя старонкі аповесці, ты можаш стварыць кнігу!***

***Аўтар аповесці «Арнаменты» Аліна Длатоўская — студэнтка-другакурсніца, будучы культуролаг. Любіць вандраваць, ствараць розныя ўпрыгожванні і вырошчваць кветкі.***

***Аўтар ілюстрацый да аповесці — Наталля Длатоўская.***

сці, кампетэнтнасці і адданасці, а таксама прымусіць яе далучыць цябе да складу. Так што ў цябе сапраўды няма іншых варыянтаў.

— Я ў Радзе? Але я не Майстар.

— Затое я — Кіраўнік. Такім чынам, я магу адмежаваць вас ад лішніх размоў і надзяліць некаторымі прывілеямі, звязанымі з яго выхаваннем.

— Я бясконца вам удзячны, — Стэфан з павагай нахіліўся.

— Разлічымся. У рэшце рэшт, ты яшчэ можаш стаць Майстрам і заняць нарэшце маё месца. Але толькі пасля таго, як Майстрам стане ён.

— Я зразумеў. Дазвольце ўбачыць яго.

Кіраўнік, хмыкнуўшы ў сівыя вусы, штуршком адчыніў дзверы ў кабінет. Пакой, які малады чалавек не мог трываць. Пакой, у якім адбываліся найгоршыя падзеі ў яго жыцці. Цяпер пасярод кабінета ў мяккім крэсле сядзеў хлапчук з вельмі сур'ёзным выразам твару. І толькі Стэфан зрабіў да яго крок, як атрымаў жорсткі штуршок пругкага паветра ў грудзі. Давялося прыкласці намаганні, каб не страціць раўнавагу. Хлопчык пры гэтым толькі ледзь заўважна варухнуў рукой.

Праз паўхвіліны малады чалавек здолеў аднавіць дыханне:

— Прывітанне, Усевалад. Памятаеш мяне? Я — Стэфан, былы вучань твайго настаўніка. Калісьці я заходзіў да вас у госці.





Аліна Длатоўская

# Арнаменты



Чытацкае выдавецтва «Бярозка»
2016

## ПРАЛОГ

Аліса глядзела, як вялікае аранжавае сонейка-апельсін павольна закацілася за пагорак. Каля небасхілу засталася яркая ружовая лінія. Дзяўчынка крыху засмуцілася, хоць ведала: заўтра будзе новы дзень. У вёсцы кожны з іх поўніўся неверагоднымі прыгодамі ды цікавосткамі. Шкада толькі, што яна тут зусім ненадоўга — на тыдзень, пакуль бацькі занятыя пераездам.

Вакол раскінуліся бясконцыя абшары. З аднаго невялічкага пералеску ўдалечыні на луг выбеглі дзяўчаты ў дзіўных зялёных сукенках. Вянкі з кветак і зялёных галінак упрыгожвалі іх доўгія русыя валасы. Яны гулялі, спрабуючы злавіць адна адну, танчылі, спявалі, вадзілі карагоды. Дзяўчаты нібы сышлі са старонак якой-небудзь казкі пра эльфаў, якія так любіла Аліса.

— Дзядуль, а хто гэта там?

— Дзе, Лісачка? — дзядуля прыжмурыўся. — Нікога не бачу…

— Вунь жа, каля пералеску! Дзяўчаты ў зялёных сукенках, з вянкамі. Прыгожыя такія.

— Няма там нікога, малеча, — пахітаў галавой дзед, усё яшчэ напружваючы зрок.

— А я табе кажу: ёсць, — упарта тупнула нагой дзяўчынка. — Ты проста не бачыш.

— Ну, можа, і не бачу, Лісачка, можа, і не бачу. Стары стаў зусім, — усміхнуўся дзядуля.

2

***

Стэфан на хвіліну затрымаўся ў калідоры, здымаючы наскрозь мокры плашч ды брудныя боты. Цяпер няма каму нагадваць яму пра тое, што ў хаце павінна быць чыста, але гэтыя рухі ўжо адпрацаваныя.

— Вечар добры, спадар Стэфан, — у калідор выйшаў Кіраўнік, сівы мужчына з суровым абліччам. — Спачуваю, што не магу назваць вас Майстрам. Шкада, што ўсё так склалася.

— У мяне не было варыянтаў, — ціха і змрочна адказаў Стэфан.

— Я разумею. Але колькі табе? Дваццаць? Выдатны ўзрост, каб пачаць кар’еру, а не каб скончыць яе.

Ён і прыйшоў сюды не ў лепшым настроі, а цяпер яго літаральна змяшалі з брудам. З тым самым, які застаўся на ботах.

— Я не мог інакш. Вы ж ведаеце. Вы ўсё ведаеце, — раззлавана, але стомлена вымавіў малады чалавек.

— Ведаю. Менавіта таму ты пазбавіўся толькі кар’еры. Хоць табе хутка захочацца і з жыццём развітацца, — старэйшы паклаў малодшаму на плячо сваю цяжкую далонь. — Мы з ім так напакутаваліся за гэтыя два дні...

— Я знайду з ім агульную мову.

— Табе давядзецца гэта зрабіць. Мне каштавала бязмежных высілкаў упэўніць Раду ў тваёй надзейна-

3

пад Купал. Асаблівасцю Ваяроў, тым, што робіць іх магутнымі, з'яўляецца ўменне атрымліваць і аддаваць энергію, якая, вядома, ёсць паўсюль: у вадзе, паветры, глебе, полымі і дрэвах. З дапамогай гэтай энергіі Ваяры чаруюць і змагаюцца з пачварамі. Вельмі рэдка дзеці з такімі здольнасцямі застаюцца незаўважанымі, але найчасцей канчаюць жыццё ў вар'ятні або выдаюць сябе за пракрокаў ці медыумаў. Міру заўважылі, хоць і са спазненнем, патрэбныя сілы.

Адвучыўшыся пятнаццаць гадоў, Ваяры звычайна выпраўляліся ў Знешні сусвет, каб ахоўваць звычайных людзей. Аднак такія паспяховыя вучні, як Міраслава, мелі права стаць Майстрамі. Майстры атрымлівалі і аддавалі больш энергіі, а значыць, былі больш моцнымі. Майстры ўмелі і ведалі больш, а значыць, займалі вышэйшыя пасады. Трэба было толькі правесці год з Майстрам, а пасля яшчэ два гады пражыць у Знешнім сусвеце, палюючы на пачвараў. Сёння Міраслава зробіць першы істотны крок у гэтым накірунку.

Коратка вітаючыся з усімі, каго сустракала, яна ўпэўнена крочыла на галоўную плошчу да невялікага акуратнага будынка Рады Майстроў, складзенага з камянёў, пакрытых старажытнымі ўзорамі. Побач з Радай высілася самае вялікае і самае істотнае ў іх сусвеце збудаванне — Млын. Захоплена разглядаючы яго, Міра ледзь не забылася на традыцыйны

8

— Стэфан? — малы ўзняў пільныя арэхава-зялёныя вочы. — Нашага настаўніка забілі?

— Так, Усевалад. Спачуваю, — мужчына яшчэ раз паспрабаваў наблізіцца да хлопчыка і на гэты раз у яго атрымалася. — Калі ты захочаш, цяпер я магу быць тваім настаўнікам.

— А што, калі цябе таксама заб'юць?

— Абяцаю: не заб'юць.

— Адкуль я ведаю, што ты стрымаеш абяцанне?

— Даю табе слова Ваяра. Але ты можаш праверыць — стаць маім вучнем.

— Ты спрабуеш мяне заблытаць. Не атрымаецца, — звузіўшы вочы, заўважыў хлопчык. — Я ўжо не маленькі і шмат разумею. Тут прысутнічае Кіраўнік, а значыць, мае меркаванне наконт настаўніка насамрэч мала каго цікавіць.

Стэфан разгублена павярнуў галаву і паглядзеў на мужчыну, які стаяў, злажыўшы накрыж рукі, і ўсім сваім выглядам сцвярджаў адно: «Я цябе папярэджваў».

— Ты ў нечым правы, Усевалад. Аднак яны не аддаюць цябе абы-каму, а давяраюць чалавеку, які звязаны з табой, ведаў твайго настаўніка. Гэта нешта значыць, праўда?

— У рэшце рэшт, ты першы, хто паспрабаваў падысці да мяне больш за адзін раз, — з гэтымі словамі малы саскочыў з крэсла і ўзяў маладога чалавека за руку. — Я спадзяюся, вы стрымаеце абяцанне, Настаўнік.

5

Стэфан адчуў, як упэўнена пульсуе ўнутры маленькіх далоняў магутная Энергія, і закусіў вусны. Яго чакалі вельмі няпростыя дзесяць гадоў.

## ПЕРШАЯ

Міраслава варухнула рукой — і ад пальцаў кругамі разбегліся блакітныя хвалі. Купал больш ніяк не збіраўся рэагаваць на яе прысутнасць. Яна пляснула па пругкай паверхні далонню — і яе адштурхнула назад. Не тое, каб яна вельмі імкнулася за Мяжу, але ўсе правілы, якія ціснулі на яе гэтыя гады, надакучылі неверагодна.

Міра была часткай таямнічай суполкі, што жыла пад Купалам, у так званым Унутраным сусвеце, і мела назву «Дундаравы Ваяры». Яны — назіральнікі, яны — кантралёры, яны не жывуць, а толькі сочаць за жыццём. Яны пакідаюць Унутраны сусвет, калі вялікаму Знешняму сусвету патрэбна іх дапамога. Са старажытных часоў Дундаравы Ваяры змагаліся з істотамі цемры, якія перашкаджалі людзям спакойна жыць. Гэта іх прызначэнне, іх Лёс.

Лёс, увогуле, дзіўны. Ён сваволька. І з ім абсалютна бессэнсоўна спрачацца. Калі ты нарадзіўся асаблівым — Ваярам, — ты мусіш ім стаць. Тваё здольнасці раней ці пазней заўважаць — і ты трапіш сюды,

6



7

Яна адчувала сябе разгубленай. Толькі Кіраўнік можа адначасова выканаць і не выканаць просьбу! З аднаго боку, атрымала тое, пра што прасіла. З другога, як гэты «прадстаўнік» можа быць лепшым, калі ён нават не Майстар? Як звычайны Ваяр мог трапіць у Раду? Значыць, сапраўды лепшы, калі прыняты ў Раду, нягледзячы на тое, што не Майстар. Але тады чаму не Майстар?

Думаць у Міраславы атрымлівалася горш, чым дзейнічаць. Таму яна рушыла ў бок дома, апошняга ў Квартале Майстроў.

***

Аліса сядзела на прыпынку, хутаючыся ў тоўсты швэдар і намагаючыся не змерзнуць канчаткова. Наваколле здавалася гэткім жа шэрым, як мокры асфальт. Па лужынах распаўзаліся кругі ад дажджу. Сямнаццатае лета ў жыцці абяцала прайсці паўз яе, як праходзяць незнаёмыя людзі. Куды яны ідуць? А колькі з тых, што разам з ёю чакаюць аўтобуса, ведаюць, чаго яны чакаюць ад жыцця? І ці можна ўвогуле да чагосьці прыйсці? Ці кожны проста ідзе, пакуль не ўпадзе, ствараючы па дарозе сям’ю, кар’еру, непрыемнасці і такіх самых бязмэтных істот, як сам? Тады які сэнс ісці? Не, не можа быць усё так проста. Сусвет не губляў бы энергію на такую колькасць бязмэтных істот. Значыць, яны ўсе тут з пэўнай мэтай. Але з якой? Можа, Сусвет ужо і сам забыўся,



паклон. Мураваныя сцены абяцалі трываласць і непарушнасць сусвету. Аб высокія падмуркі з шумам біліся хвалі. Іх неўтаймаваная энергія рухала велізарнае драўлянае кола. Гул, які яно стварала, круцячыся, зачароўваў не менш, чым выгляд самога Млына. Міры было дастаткова толькі глядзець і слухаць, каб адчуваць, як па нагах лёгкімі штуршкамі падымаецца Энергія, без якой не змог бы існаваць ні адзін Ваяр і ўвесь сусвет не меў бы ніякага сэнсу. Блакітнымі іскрынкамі гэтая энергія перадавалася па гнуткіх сцяблінах лазы, што спавівалі сцены Млына, далей, да цэнтра плошчы, туды, дзе размяшчалася яшчэ адна, не менш важная для існавання іх сусвету рэч. Чым яна ёсць? Збудаваннем? Істотай? З’явай?

Міраслава прызвычаілася ўспрымаць яе ў цеснай сувязі з назвай — Татэм. Гэта быў спярэшчаны старажытнымі арнаментамі і ашчэранымі пашчамі лясных драпежнікаў слуп, у які ўрасталі сцябліны лазы. Блакітныя іскрынкі рухаліся па іх, збіраючыся на самым версе Татэма ў сноп і распаўзаючыся вялізным энергетычным парасонам не толькі над ім, але і над усім сусветам.

Міра падышла да будынка Рады Майстроў. Увайшла ў прасторную светлую залу, намагаючыся думаць пра ўнутраную энергію. Гэта было не так проста, бо яе праціналі шэсць пар уважлівых позіркаў. Трох Майстроў не было на месцах. Адзначыўшы

гэтую акалічнасць, Міраслава яшчэ больш усхвалявалася. Ці вырашаць яны яе пытанне такім няпоўным складам? Ці здолее яна прыйсці сюды яшчэ раз? Ці стануць яны слухаць яе зноў? І ці стануць слухаць зараз?

— Вітаю, спадарыня Міраслава, — спакойна вымавіў Кіраўнік.

Міру палохаў гэты чалавек. Заўсёды ветлівы, усмешлівы, мяккі, але ёй здавалася, што ўнутры яго, недзе там, у глыбіні, за срэбна-шэрымі вачыма, жыве істота жудасна-драпежная. І што Кіраўніку каштуе неверагодных высілкаў стрымліваць ды ўтаймоўваць яе.

— Добры дзень, — прамовіла дзяўчына. — Я хачу стаць Падмайстрам, Кіраўнік.

Мужчына пераглянуўся з астатнімі, хто сядзеў за доўгім сталом. Яны, паглыбленыя ў свае справы, праяўлялі да дзяўчыны мала зацікаўленасці і яўна спадзяваліся, што Кіраўнік усё вырашыць самастойна.

— Наколькі памятаю, вы паспяхова завяршылі папярэдні этап адукацыі. Асабіста я не бачу ніякіх перашкод. Вы хочаце вучыцца ў нейкага канкрэтнага Майстра?

Міраслава сама сабе ўсміхнулася, хоць насамрэч радавацца было рана — самае складанае чакала наперадзе. Няўжо яна не заслужыла таго, пра што збіралася прасіць?

10

— Я хачу трапіць да лепшага, — выпаліла яна, сціскаючы вільготныя далоні ў кулакі.

— Вось як, — Кіраўнік нацягнута ўсміхнуўся, а Міра ўявіла, як напружыўся ланцуг, што стрымлівае пачвару ўнутры яго. — Тут усе лепшыя, спадарыня Міраслава. Можа нам варта зладзіць экзамены, каб абраць найлепшага?

Ёй стала горача. Напэўна, так жа горача зараз унутраным далоням Кіраўніка, якія абпальвае нацягнуты ланцуг. Але Міра не дарма лічыцца адной з лепшых вучаніц. Яна ідзе да канца ў любой сітуацыі.

— Я хачу да таго, хто мае лепшага вучня, — стрымліваючы дрыжанне ў голасе, паведаміла яна.

Твар Кіраўніка адлюстраваў не злосць, як яна чакала, а здзіўленне.

— Вы смелая, спадарыня Міраслава. І ваша дзёрзкасць вартая ўзнагароды. У аднаго з прадстаўнікоў Рады вучань дэманструе асаблівыя поспехі. Але я павінен папярэдзіць: гэты прадстаўнік Рады не з'яўляецца Майстрам. Але вашай кар'еры гэта ніяк не нашкодзіць.

— Я згодная, — цяпер яна хацела апынуцца як мага далей адсюль.

— Апошні дом у Квартале Майстроў, з чырвоным дахам. Добрага вам вечара, спадарыня Міраслава.

— Дзякую, — выціснула Міра, спінай адчыняючы дзверы.

11

абдымаў не менш пяшчотна, чым старэйшую ўнучку. Яна дрэнна яго памятала, таму не была ўпэўненая, што заслугоўвае гэтых абдымкаў. Яна ўжо ведала, што роднасць не гарантуе любові. Таму што тата, напрыклад, родны, але наўрад ці любіць яе. Інакш навошта яму яшчэ адна сям'я?

Ад сумных думак Агнію адцягнуў дзіўны гук у цёмным куце пакоя, за старой шафай. Дзяўчынка прыглядзелася. У куце корпаўся маленькі дзядок. Ён, напэўна, ледзь дастаў бы ёй да пояса. Дзядок акуратна збіраў павуцінне, намотваючы яго на сагнутую ў локці руку. Скруткі здымаў і складаў у мех каля ног.

Зняў павучка, задумліва паглядзеў на яго:

— Не пішчы, хлопча. Аднясу цябе ў хлеў, там будзеш пад наглядам майго browse браткі жамяру есці. А ў хаце няма чаго бруд разводзіць. Што кажаш? Павуцінне? Выбачай, малое, павуцінне не аддам. Новага сабе наробіш. А я з гэтага сабе шкарпэткі звяжу. На восень.

Агнія разгублена штурхнула Алісу ў бок.

— Аля! Аля! Тут нейкі дзядок. Ён маленькі. Павуцінне збірае…

Сястра прамармытала скрозь сон:

— Агеньчык, ён табе проста прымроіўся. Спі, цудзік.

Агнія вырашыла, што пасправачаецца з сястрой заўтра і, пакрыўджана надзьмуўшы вусны, адвярнулася ад дзіўнага дзядка.

16

навошта яму гэтая драбяза? Калісьці людзі прыходзілі сюды з канкрэтнымі мэтамі і сыходзілі толькі пасля таго, як дасягалі іх. Але потым Сусвет састарэў, пачаў крышыцца і ад яго адламалася і згубілася нейкая вельмі істотная частка. Людзі забылі, хто яны і дзеля чаго.

Аднак можна згадаць! Яна была ў гэтым упэўненая. Менавіта таму так любіла кнігі і кіно з сапраўднымі героямі і добрымі фіналамі. Чужыя жыцці маглі падказаць ёй дарогу. Ясная справа, гэта не пярсцёнак Усеўладдзя, не шафа ў Нарнію і не ліст з Хогвартса. Але гэта нешта… Нешта…

З кім пра гэта паразмаўляць, у каго спытаць? Бацькі з ранку да вечара на працы, а школьных сяброў такія пытанні мала цікавяць. Адзіны чалавек, які можа яе выслухаць, — сямігадовая сястрычка Агнія. Толькі яна пакуль не адкажа на такія пытанні.

Да прыпынку, распырскваючы ваду з лужын, пад'ехаў аўтобус. І, нібы падмацоўваючы Алісіны думкі, нахабны хлопец, штурхаючыся, паспрабаваў першым трапіць у салон.

«Калі б ты ведаў, дзе павінен быць насамрэч, ці імкнуўся б ты так у гэты аўтобус?»

Адзінае, што прымушала думаць пра лепшае: гэта лета яны з сястрой правядуць ў дзядулі ў вёсцы, далёка ад шэрага горада і бязмэтнага натоўпу. Мо на прыродзе, у цішыні і спакоі яна нарэшце адшукае сябе?

13

***

Агнія хавалася ад сусвету ў цёплых абдымках старэйшай сястры. Месячык зацікаўлена зазіраў у іх пакой праз ільняныя фіранкі і перашкаджаў малой спаць. Сёння было надта шмат уражанняў. Падзеі, выявы, людзі, колеры, пахі — усё гэта паступова ўкладалася ў галаве, ператвараючыся ва ўспаміны, але не дазваляючы заплюшчыць вочы.

Цікава, што запомнілася Алісе? Ці бачыла яна гэтыя бясконцыя абшары лясоў і палёў, зранку схаваныя за тонкім вэлюмам туманоў? Ці бачыла яна гэтае дзіўнае самотнае дрэва сярод лугавіны? Ці заўважыла, як блішчэлі ў сонечных промнях крыжы царквы? Ці разглядзела нахабнага бусла, які вышукваў жабак у каляіне ля дарогі? Ці бачыла яна гэтыя бясконцыя адценні зялёнага, у якія расфарбавана прырода? У Агніі дакладна не хапіла б алоўкаў.

Мо Алісе больш запомніўся не шлях, а вёска. Яе хаткі такія рознакаляровыя… Ды Алісу гэта наўрад ці зацікавіла.

Дакладна! Самай істотнай часткай паездкі для Алісы, ясная справа, стала сустрэча з дзядулем. Толькі яна пабачыла яго, дык адразу ж забылася на плэер, які слухала ўсю дарогу, на рэчы, якія трэба было забраць, і кінулася старому на шыю. Агнію дзядуля

14

15





# Журботная скандынаўская казка

Вітаю цябе, дарагі чытач.

У свеце ёсць мноства спосабаў бавіць свой вольны час. Я хацеў бы звярнуць тваю ўвагу на інтэрактыўныя забаўкі, а менавіта на камп'ютарныя гульні. Многія людзі ставяцца да іх хутчэй паблажліва, чым з павагай. Але я ўпэўнены, што гэта незаслужана. Некаторыя праекты блізкія да паняцця «лічбавага мастацтва».

Прашу не палохацца маёй сур'ёзнасці, аўтар гэтага тэксту — усяго толькі стары хлапчук. Я паспрабую ахопліваць максімальна розныя гульні, якія пададуцца мне досыць цікавымі і якія вы можаце прапусціць па тых ці іншых прычынах. Пачнем.

Багі мёртвыя, сонца спынілася на небасхіле, многія лічаць, што прыйдзе канец усяму... Так сустракае нас свет гульні The Banner Saga ад студыі Stoic. Свет, навеяны духам скандынаўскіх легенд, марозны, жорсткі і чароўны. Людзі дзеляць яго з рагатымі гігантамі Варламі, што былі створаны адным з багоў. Горды, ўпарты і ваяўнічы народ, Яны аднак асуджаны на павольнае выміранне, нават нягледзячы на доўгае жыццё.

Няўстойлівы саюз паміж каралеўствамі людзей і Варлаў трымаецца толькі на страху перад агульным ворагам, які даўно выгнаны ў паўночныя пусткі і пра якога ўсе амаль забыліся. Да моманту пачатку гульні.

Адным з асноўных элементаў гульні з'яўляецца кіраванне караванам. У адным выпадку воінаў, а ў іншым бежанцаў, якім трэба будзе стаць ваярамі, кожны дзень змагаючыся за выжыванне.

Персанажам, ды і гульцу трэба прайсці доўгі шлях па заснежаных пустках, руінах паселішчаў і яшчэ цэлых гарадах, дзе чужынцам ніхто не рады. Ледзь не асноўным супернікам будзе голад, пры недахопе правізіі караван будзе проста растварацца на вачах. Але будуць і сапраўдныя бітвы, у якіх гульня пераходзіць у пакрокавы рэжым з мноствам тактычных прыёмаў.

Цікавай дэталлю гэтага твора мне бачыцца падача сюжэта, на які гулец уплывае кожным сваім рашэннем. Складаны выбар пераследуе нас пастаянна, ухіліцца ад яго не атрымаецца. Няправільнае рашэнне прыводзіць да сур'ёзных страт, а часам і гібелі кагосьці з персанажаў, да якіх паспяваеш прывыкнуць за доўгую гісторыю. Не бывае выбару без наступстваў, як і подзвігу без ахвяры.

Графічна гульня выканана проста цудоўна. Яна вельмі прыгожая. Анімацыі ў дыялогах мінімум, што зрэшты ніяк не перашкаджае ўспрыманню сюжэта.

За дух The Banner Saga трэба дзякаваць кампазітару Осціну Уінтары (Austin Wintory). Яго цягучыя, журботныя і велічныя мелодыі стануць вашымі спадарожнікамі. Я ж магу абяцаць маркотную казку з надзеяй на лепшае.

Добрага шляху!

***Вадзім Каплун***

# Бярозка

рухацца наперад





*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»





Адрас рэдакцыі

Юрыдычны адрас:
220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.



Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю. С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А. У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп'ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычны рэдактар:
А. І. Саламевіч

Падпісана да друку 15.01.2016 г.
Фармат 60x84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 5,58. Ул.-выд. арк. 6,76.
Тыраж 1338 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск






Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

*На першай старонцы вокладкі — малюнак Алесі Галоты.*

# Адбіткі часу

***Дом-музей І з'езда РСДРП прадстаўляе***






«Зінгер» — самая папулярная швейная машынка. Чамусьці лічыцца нямецкай, хоць выраблялася ў ЗША, а зборачныя цэхі размяшчаліся ў Еўропе і Расійскай імперыі.

Нямецкі музычны інструмент у канцы XIX і пачатку XX стагоддзя можна было бачыць у любым шляхецкім доме. Каб была магчымасць іграць па вечарах, на спецыяльныя металічныя накладкі ўмацоўваліся падсвечнікі.

Два падсвечнікі і люстэрка, рэчы з выгляду і невялікія, але даволі цяжкія, належалі сям'і Пятра Румянцава. Яго сям'я здымала дом, у якім цяпер музей.





Жырандоля, якая можа апускацца з дапамогай спецыяльнага механізму, раней свяціла газавай лямпай. Груз тут вісіць не для ўпрыгожвання — гэта процівага.







Рэчы, якія адлюстроўваюць эпоху.

***Дзе гэта можна ўбачыць: Мінск, праспект Незалежнасці, 31а.***

# Каляндар Бярозка

## Даты і падзеі

## Што ўспомніць, чым заняцца, што прачытаць

# Люты

**4**

У 1746 годзе ў фальварку Мерачоўшчына каля мястэчка Косава нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, ваенны інжынер і нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША, ганаровы грамадзянін Францыі. Чым не нагода трапіць у музей, створаны ў тым самым фальварку?

**8**

Дзень нараджэння Дзмітрыя Мендзялеева — важкая прычына адказна выканаць «дамашку» па хіміі.

**8**

Пісьменніку Івану Мележу споўнілася б 95 гадоў. Чытай у наступным нумары ў рубрыцы «Бел. літ.» пра тое, як правільна чытаць яго твор «Людзі на балоце».



**14**

Дзень Святога Валянціна, самае што ні ёсць школьнае свята.

**17**

Дзень раптоўных праяў дабрыні. Зрабі нешта добрае!

**18**

Нарадзіўся наш пісьменнік Максім Гарэцкі, «постаць еўрапейскай вышыні».

Міжнародны дзень роднай мовы ў юбілейны для гэтай даты год: яна была абвешчана ЮНЕСКА ў 1999 годзе. «Бярозка» ў гэты дзень робіцца ўсюдыснай: пранікае ў бібліятэкі і школы па ўсёй краіне з прэзентацыямі і творчымі святамі. Запрашайце!



**21**

**28**

У гэты дзень варта прачытаць аповесць «Адзінокі васьмікласнік жадае пазнаёміцца» Алеся Бадака. Пісьменніку спаўняецца 50 гадоў. Віншуем!






**Самы кароткі месяц года. Прадвесне**



У любы дзень: пакармі птушак!